ВЫДАНЬНЕ МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ У ЛІТВЕ.

К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі.

# СЛОЎНІК

## Геамэтрычных і Трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў.

(Расійска-беларускі і беларуска-расійскі).

КОЎНА :::::::::::::: 1923 г.

Друкарня Бр. М. і Л. ГУРВІЧ. Коўна, 16 Васаріо 2.



СЛОУНІК СКЛАДЗЕНЫ ДА:

1⁰. „Элемэнтарная геамэтрыя“ **А. Кіселева**. Пераклад на беларускую мову **К. Дуж-Душэўскага.**
2⁰. „Падручнік пpасталінейнай трыганамэтрыі“ апрацаваны паводле **Н. Рыбкіна, А. Сэррэ** і др. **К. Дуж-Душэўскім.**



# Прадмова.

**Мэты слоўніка.** Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў намі складзены з двумя мэтамі: першая — каб, да часу выпуску ў сьвет падручнікаў геамэтрыі і трыганамэтрыі, даць хаця-бы слоўнік, які мог бы дапамагчы вучыцелям і вучням часова карыстацца пры выкладах і навуцы з падручнікаў ў чужых мовах, і другая мэта — каб пры друку сваіх падручнікаў можна было скарыстацца тымі папраўкамі і крытыкай, якая магчыма, будзе надаслана выдаўцу або аўторам гэтага слоўніка. Такая дыскусыя і абмен думак вельмі пажаданы і будуць прыняты з вялікай падзякай.

**Матэрыяламі** пры апрацоўцы слоўніка для нас служылі: Арытмэтычная тэрміналёгія выд. Беларускай Школьнай Рады. Элемэнтарная альгэбра Кіселева у апрацоўцы па беларуску А. Луцкевіча. Фізыка інж. Трэпкі. Усе гэты кнігі, асабліва апошніх дзьве, апрацаваны з вялікай ўдумчывасьцю і ведай справы і большасьць тэрмінаў, якія можна было датасаваць да геамэтрыі і трыганамэтрыі, ўзяты зтуль „жыўцом“. Спэцыяльна-ж геамэтрычныя і трыганамэтрычныя тэрміны, якія ў гэных працах не сустрачаюцца прышлося апрацаваць складчыкам гэтага слоўніка. З кніг у чужой мове

матэрьялам паслужылі: „Z. Žemaitis. Gieometrijos ir Trigonometrijos terminų rinkinėlis“ і „M. Šykšnys, Aritmetikos ir algebros terminų žodynėlis“.

**Асновы апрацоўкі.** Пры апрацоўцы тэрмінаў мы трымаліся такіх асноваў.

„Інтэрнацыянальныя“ тэрміны, калі яны атрымалі пашырэньне і перадаюць спэцыфічныя адцені мы пакідалі бяз зьмены, надаючы ім толькі фонэтыку беларускую. Прыкладам: іррацыянальны, геамэтрыя, трыганамэтрыя.

Інтэрнацыянальныя тэрміны, якія такіх адценяў ня маюць і добра тлумачыліся на беларускую мову, мы тлумачылі, пакідаючы побач і „інтэрнацыянальныя“ назовы. Прыкладам: радиус — лучак, радыюс; центр — асяродак, цэнтр.

Калі дадзены тэрмін ёсьць у жывой беларускай мове, то мы бралі яго. Прыкладам: грань — сьцяна; ребро — кант; угол — кут.

Калі ў беларускай жывой мове такога тэрміна мы не знаходзілі, то бралі найбліжэйшае слова або карэнь слова і прытасоўвалі яго гэтакім чынам, каб новы тэрмін даваў яснае прадстаўленьне аб зьмесьце паняцьця, каб тэрмін быў, па магчымасьці, кароткі, каб ён быў зычны і прыгожа гучэў. Прыкладам: диагональ — касада, касоды; гипотенуза — укосьніца і г. д.

**Увагі да тэрміналёгіі.** Слова „**окружность**“ большасьць беларускіх тэрмінолагаў тлумачыць словам „кола“. Нам здаецца, што больш рацыянальна пакінуць у матэматыцы слова „акружнасьць“ якая паказывае, што часьць пласма „**акружана**“ лініяй, а не паложана на яго „калясо“ ці „кола“.



Слова „**дуга**“ намі ператлумачана словам „**дугавіна**“, бо яна павінна адрожніваць „дугу“ — часьць упражы ад матэматычнай лініі, тым больш што упражная прылада „дуга“ мае зьнешні спазор прыпамінаючы хучэй парабалу, а ўжо да часьці акружнасьці не пасуе.

Слова „**плоскость**“ беларускія тэрмінолагі тлумачылі „плашчына“ (з польскага płaszczyzna“) і „роўнядзь“. У беларускай - жа жывой мове для паняцьця „плоскости“ ёсьць сваё слова. Прыкладам кажуць: „плашка, плошка, пласмом палажыць і г. д.“. Вось мы і ўжылі для слова „плоскость“ „**пласмо**“.

Слова „**дробь**“ тлумачылася ў беларускай мове многімі словамі як „дробязь, дроб“ і інш.

Палавіна, чверць, пяць восьмых і г. д. азначаюць, што дадзеная лічба ня цэлая, а часьць някай лічбы. Гэта часьць можа быць не маленькая а і вялікая г. зн. „ня дробная“, а буйная, „крупная“. Палавіна адлегласьці сонца ад зямлі лічба вельмі значная, хаця і ня цэлая; назваць яе „дробнай“ нельга, бо слова „дробны“ ў беларускай мове азначае супроцьлеглае „буйнаму, крупнаму“ Палавіна курыцы ня знача, што курыца „дробная“, яна можа быць і „буйнай“ знача-ж гэта, што ўзята толькі часьць курыцы, а ня цэлая. Гэтакім

матэрьялам паслужылі: „Z. Žemaitis. Gieometrijos ir Trigonometrijos terminų rinkinėlis“ і „M. Šykšnys, Aritmetikos ir algebros terminų žodynėlis“.

**Асновы апрацоўкі.** Пры апрацоўцы тэрмінаў мы трымаліся такіх асноваў.

„Інтэрнацыянальныя“ тэрміны, калі яны атрымалі пашырэньне і перадаюць спэцыфічныя адцені мы пакідалі бяз зьмены, надаючы ім толькі фонэтыку беларускую. Прыкладам: іррацыянальны, геамэтрыя, трыганамэтрыя.

Інтэрнацыянальныя тэрміны, якія такіх адценяў ня маюць і добра тлумачыліся на беларускую мову, мы тлумачылі, пакідаючы побач і „інтэрнацыянальныя“ назовы. Прыкладам: радиус — лучак, радыюс; центр — асяродак, цэнтр.

Калі дадзены тэрмін ёсьць у жывой беларускай мове, то мы бралі яго. Прыкладам: грань — сьцяна; ребро — кант; угол — кут.

Калі ў беларускай жывой мове такога тэрміна мы не знаходзілі, то бралі найбліжэйшае слова або карэнь слова і прытасоўвалі яго гэтакім чынам, каб новы тэрмін даваў яснае прадстаўленьне аб зьмесьце паняцьця, каб тэрмін быў, па магчымасьці, кароткі, каб ён быў зычны і прыгожа гучэў. Прыкладам: диагональ — касада, касоды; гипотенуза — укосьніца і г. д.

**Увагі да тэрмінолёгіі.** Слова „**окружность**“ большасьць беларускіх тэрміналагаў тлумачыць словам „кола“. Нам здаецца, што больш рацыянальна пакінуць у матэматыцы слова „акружнасьць“ якая паказывае, што часьць пласма „акружана“ лініяй, а не паложана на яго „калясо“ ці „кола“.



Слова „**дуга**“ намі перапатлумачана словам „**дугавіна**“, бо яна павінна адрожніваць „дугу“ — часьць упражы ад матэматычнай лініі, тым больш што упражная прылада „дуга“ мае зьнешні спазор прыпамінаючы хучэй парабалу, а ўжо да часьці акружнасьці не пасуе.

Слова „**плоскость**“ беларускія тэрміналагі тлумачылі „плашчына“ (з польскага płaszczyzna“) і „роўнядзь“. У беларускай - жа жывой мове для паняцьця „плоскости“ ёсьць сваё слова. Прыкладам кажуць: „плашка, плошка, пласмом палажыць і г. д.“. Вось мы і ўжылі для слова „плоскость“ „**пласмо**“.

Слова „**дробь**“ тлумачылася ў беларускай мове многімі словамі як „дробязь, дроб“ і інш.

Палавіна, чверць, пяць восьмых і г. д. азначаюць, што дадзеная лічба ня цэлая, а часьць некай лічбы. Гэта часьць можа быць не маленькая і вялікая г. зн. „ня дробная“, а буйная, „крупная“. Палавіна адлегласьці сонца ад зямлі лічба вельмі значная, хаця і ня цэлая; назваць яе „дробнай“ нельга, бо слова „дробны“ ў беларускай мове азначае супроцьлеглае „буйнаму, крупнаму“ Палавіна курыцы ня знача, што курыца „дробная“, яна можа быць і „буйнай“ знача-ж гэта, што ўзята толькі часьць курыцы, а ня цэлая. Гэтакім

чынам ужыць карэнь „дроб“ для азначаньня ня цэлых лічбаў, было-бы не адпаведным.

У польскай тэрмінолёгіі ўжываецца слова „ułamek“ з нямецкага „der Bruch“. Гэта слова ўжо лепш характэрызуе паняцьце. Тое, што „адламана“, ня можа быць цэлым, ня гледзячы на абсалютную вартасьць. Але карэнь „ламаць“ няўдатны ў сэнсе самога чыну.

У жывой беларускай мове ёсьць слова для азначаньня паняцьця няцэлай лічбы. Гэта слова „часьць“. 1/5 дзясяціны — ёсьць адна пятая часьць дзесяціны і г. д.

Вось гэта слова „часьць“ намі ўжыта асноваю для тэрміна, які мае азначаць няцэлыя лічбы. Вывадныя ад „часьць“ ёсьць: часьць, частка, часьведзь, часьціна, часьцінка і г. д.

Хіба найлепш падойдзе слова „частка“. Гэткім чынам будзем мець:

Дробь — частка, часткі.

Дробный — частковы.

Простая дробь — простая частка.

Десятичная дробь — дзесятковая частка і г. д.

Падобным чынам разважаючы, мы парашылі тлумачыць слова **„отношение“** ня словам „адносіны“, а словам „тасунак“.

На пералічаныя тэрміны намі зьвернута асаблівая ўвага, бо яны увойдуць у штодзеннае жыцьцё і добрае разьвязаньне іх вельмі важна.



Варта зьвярнуць увагу яшчэ на слова **„угол“**, якое мае ў беларускай жывой мове тры словы: „кут, вугол, рог“. Кажуць: „кут у хаце, вугол хаты і рог вуліцы“.

Калі перанясьці гэты словы тэрмінамі у геамэтрыю, то іх можна добра ўжыць гэтакім чынам:

Плоский угол — кут

Двугранный угол — вугол

Многагранный (телесный) угол — рог.

*К. Дуж-Душэўскі*

*і В. Ластоўскі.*

# РАСІЙСКА - БЕЛАРУСКАЯ ЧАСЬЦЬ.

**(Націск абазначаны чорным шрыфтам).**

## А

АБСОЛЮТНЫЙ — абсалютны (лац. absolvo — адзеляю, асвабаджаю, аканчаю; адгэтуль absolutus — незалежны ад чаго небудзь; абсалютная вартасьць фактычна знача незалежная ад іншых велічын); абсолютная длина отрезка — абсалютная даўжыня адрэза; абсолютное значение величины — абсолютная вартасьць велічыны.

АБСУРД -- абсурд (лац. absurdus — кепскагучны, неадпаведны, бязсэнсоўны, недарэчны, няспрытны),недарэчнасьць; приведение к абсурду (нелепости) — зьвядзеньне да абсурду (недарэчнасьці).

АКСИОМА — аксіома (грэцк. axioma, axiosis — паважаньне, ганаровая пасада, трэбаваньне, пастанова прынятая грамадзянствам).

АЛГЕБРА — альгэбра (арабскае слова якое знача дадатак, параўнаньне, злучэньне, упрашчэньне).



АЛГЕБРАИЧЕСКИЙ — альгэбрычны; решить задачу алгебраическим способом — разьвязаць задачу альгэбрычным спосабам; алгебраическая формула — альгэбрычная формула; приложение алгебры к геометрии — датасоўка альгэбры да геамэтрыі.

АНАЛИЗ — аналіз (грэцк. analyo — расчыняю, раскладаю, распускаю, тлумачу, развиваю, зьмяняю).

АНАЛИТИЧЕСКАЯ ГЕОМЕТРИЯ — аналітычная геамэтрыя.

АНАЛИТИЧЕСКИЙ — аналітычны; аналитический метод — аналітычная мэтода; решить задачу аналитическим методом — разьвязаць задачу аналітычнай мэтодай.

АПОФЕМА — апотэма; апофема правильнаго мн-ка — апотэма (лучак умежанага круга) правільнага мнагакутніка; апофема пирамиды — апотэма (бакавая вышына) піраміды.

АРИФМЕТИКА — арытмэтыка (грецк. arithmos — лічба, куча, мера, лічбаваньне, пералічэньне).

АРИФМЕТИЧЕСКИЙ — арытмэтычны; арифметическое значеніе величины — арытмэтычная вартасьць велічыны; арифметическое отношение, пропорция — арытмэтычны тасунак, прапорцыя.

АСТРОЛЯБИЯ — астралябія (грэцк. astron — гьвязда).



## Б

БАЗИС — базіс (грэцк. basis — падэшва, аснова, падножнік).
БЕЗГРАНИЧНЫЙ — бязьмежны.
БЕЗКОНЕЧНО БОЛЬШОЙ, МАЛЫЙ — бязьмежна (або без канца) вялікі, малы; анализ безконечно малых — аналіз бязьмежна малых.
БЕЗКОНЕЧНОСТЬ — бязьмежнасьць; безконечно большое количество — бязьмежны лік, бязьмежна вялікі лік (колькасьць); точка пересечения удаляется в безконечность — пункт перасечы аддаляецца ў бязьмежнасьць; две параллелные прямые пересекаются в безконечно удаленной точке — дзьве раўналеглыя простыя перасекаюцца у бязьмежна аддаленым пункце; удваивать до безконечности — падвойваць да бязьмежнасьці.
БЕЗПРЕДЕЛЬНЫЙ — бязрубежны.
БИССЕКТРИССА — бісэктрыса (лац. bis — два разы і sector — дзелячый), раўнадзелячая.
БОКОВАЯ ПОВЕРХНОСТЬ — бакавая паверхня.
БОКОВАЯ СТОРОНА — бок.
БОКОВОЙ — бакавы; боковыя грани — бакавыя сьцены; боковые ребра — бакавыя канты.
БОЛЬШИЙ — вялікшы, большы.



БРОСИТЬ ПОД УГЛОМ — кінуць наўскос.
БРУСОК — брусок, дручок.
БУКВА — літара; буквенное ур-ие — літарнае раўнаваньне.

## В

ВВЕДЕНИЕ — уступ.
ВЕКТОР — вэктар (лац. vector — нясучый на сабе, які нясе).
ВЕЛИЧИНА — велічына; значение, размер величины — вартасьць, разьмер велічыны.
ВЕРНЫЙ — праўдны; задача решена верно — задача разьвязана праўдна; верно — праўдна.
ВЕРТИКАЛЬНО (лац. verto — паварачываю) — стоць (стацьма); поставить рейку вертикально — паставіць рэйку стоць; вертикальный — стоцьны (стацьцявы); вертикальная линия — стоцьная (стацьцявая) лінія.
ВЕРТИКАЛЬНЫЯ УГЛЫ — супроцьбочныя куты [або стоцьныя (стацьцявыя) куты].
ВЕРШИНА — вершадзь.
ВЕС — вага; мера веса — мера вагі.
ВЕХА — веха; провешить линию — правехаваць лінію.
ВЕЩЕСТВЕННЫЙ КОРЕНЬ — істотны карэнь.
ВЕЩЕСТВО — матэрыя.
ВЗАИМНО — ўзаемна; во всяком ромбе диагонали взаимно перпенди-

кулярны и делят углы ромба пополам — ва ўсякім ромбе касоды ўзаемна прастападны і дзеляць куты ромбу папалам.

ВИД — від, спазор, выгляд; по внешному виду — па зьнешняму выгляду; приведение к виду — з ьвядзеньне к віду.

ВМЕСТИМОСТЬ — патоўпнасьць.

ВМЕСТИТЕЛЬНОСТЬ — патоўплівасьць.

ВМЕСТИТЕЛЬНЫЙ — патоўплівы.

ВМЕСТИТЬСЯ — патоўпіцца.

ВМЕЩАТЬ — патоўпіць, утоўпіць, стоўпіць.

ВНЕ — зьне

ВНЕШНИЙ — зьнешні; внешний угол тр-ка, мн-ка — зьнешні кут тр-ка, мн-ка.

ВНУТРЕНИЙ — унутраны.

ВНУТРЕННОСТЬ — нутро.

ВНУТРИ — у нутры.

ВОГНУТАЯ КРИВАЯ, ПОВЕРХНОСТЬ — ўклясласлая крывая, паверхня; вогнутая ломаная — ўклясласлая ламаная; вогнутый мн-к — ўклясласлы мн-к.

ВОЗВЫШЕНИЕ В СТЕПЕНЬ — ступняваньне (узвышэньне у ступень?); 4 возвысить в 5 степень — 4 ступняваць у 5 ступень (можна: 4 ступняваць 5 разоў); от возвышения каждаго сомножителя в степень n, произведение тоже возвышается в степень n, — ад ступняваньня кождага сумножніка ў ступень n, множыва такжа ступнюецца ў ступень n.



ВОЗРАСТАНИЕ — узрастаньне.

ВОЗСТАВИТЬ ПЕРПЕНДИКУЛЯР — падняць прастапад (або паставіць прастапад); из точки А прямой ВС возставить к ней перпендикуляр — з пункту А простай ВС падняць на ёй прастапад.

ВООБРАЖАЕМЫЙ — выабражальны.

ВПИСАНННЫЙ ТР-К, МН-К, КВАДРАТ, КРУГ — умежаны тр-к, мн-к, квадрат, круг. [Тэарэма. Ўмежаны кут мераецца палавінаю дугавіны, на каторую ён абаперты (інакш:... на каторую ён апіраецца). Вынік. Умежаны кут, абапёрты на дыямэтр, ёсьць просты].

ВРАЩАТЕЛЬНОЕ ДВИЖЕНИЕ — аваротны (кружны) рух.

ВРАЩАТЬСЯ — аварачываацца (кружыцца?).

ВРАЩЕНИЕ — аварот (кружэньне?); ось вращения — вось авароту (кружэньня?); поверхность вращения — паверхня авароту (кружэньня?); образующая — творачая (творніца, амашная?); направляющая — кіруючая. (Паверхняй авароту зав. такая паверхня, каторая атрымліваецца ад авароту якой-небудзь нязьменнай лініі, званай творачаю, кругом нярухомай простай, званай восьсю; пры гэтым дапушчаецца, што творачая, пры сваім авароце, нязьменна зьвязана з восьсю).

ВСЛЕДСТВИЕ ТОГО — дзеля таго, дзеля гэтага.
ВСТУПЛЕНИЕ — уступ.
ВСПОМОГАТЕЛЬНЫЙ (угол, линия, окружность) — успаможны, спаможны (кут, лінія, акружнасьць).
ВЫПУКЛАЯ ЛИНИЯ — выпуклая лінія.
ВЫРАЖАТЬ — выражаць; выражение — выражэньне.
ВЫСОТА (тр-ка, пирамиды) — вышына (тр-ка, піраміды).
ВЫЧИСЛЕНИЕ — аблічэньне; задачи на вычисление — задачы на аблічэньне.
ВЫШИНА (как величина) — вышыня; вышиною в 3 метра — 3 мэтры ў вышкі, вышынёй 3 мэтры.

## Г

ГАРМОНИЧЕСКИЙ — гармонічны (грэцк. harmonia — сазгучча, згоднасьць).
ГЕОМЕТРИЧЕСКАЯ ЗАДАЧА НА ВЫЧИСЛЕНИЕ — геамэтрычная задача на аблічэньне; геометрическая задача на построение — геамэтрычная задача на пабудову.
ГЕОМЕТРИЧЕСКИЙ — геамэтрычны (грэцк. geo— зямля, metron — мера); геометрическая задача, теорема — геамэтрычная задача, тэарэма.
ГЕОМЕТРИЧЕСКОЕ МЕСТО ТОЧЕК — геамэтрычнае мейсца пунктаў; геом. м. точек равноудаленных от А и В — геамэтр. мейсца пунктаў раўнаадлеглых ад А і В.



ГЕМЕТРИЧЕСКОЕ ОТНОШЕНИЕ, ПРОПОРЦИЯ— геамэтрычны тасунак, прапорцыя.
ГЕОМЕТРИЯ — геамэтрыя; геометрические положения — геамэтрычныя асновы; аналитическая геом. — аналітычная геам.
ГИПЕРБОЛА — гіпэрбала (грэцк. hyperbole — кіданьне дыска за цэль, павялічэньне, выхад за рубеж, імкненьне у няведамую даль); гиперболический — гіпэрбалічны.
ГИПЕРБОЛОИД — гіпэрбалоід.
ГИПОТЕНУЗА — гіпотэнуза (штучнае грэцкае слова), укосьніца. (Гіпотэнуза роўна катэту разьдзеленаму на синус супроцьлеглага яму кута або на косінус прылеглага).
ГЛАВНЫЙ — галоўны.
ГОРИЗОНТАЛЬНЫЙ — паземы, горызонтны (грэцк. horidzo — абмежываю).
ГРАДУС (дуговой, угловой) — градус (лац. gradus — крок, палажэньне, пастаноўка, размер) дугавы, кутавы.
ГРАНЬ — сьцяна.

## Д

ДАННЫЙ — дадзены, даны.
ДВОЙНОЙ, УДВОЕННЫЙ — падвойны, падвоенны; функция двойного угла — функцыя падвойнага кута; сложить с уд-

военным произведением — скласьці з падвоенным множывам.

ДВУГРАННЫЙ УГОЛ — вугол (гл. сл. угол) (двусьценны кут).

ДВУЗНАЧНЫЙ (о числе) — двузначны.

ДВУМЕРНЫЙ — двумерны.

ДВУЧЛЕН — двусклад, біном.

ДВУЧЛЕННЫЙ — двускладны, біномны.

ДЕЛЕНИЕ — дзяленьне; разделить на пропорциональные части — разьдзяліць на прапорцыянальныя часьці; разделить в среднем и крайнем отношении — разьдзяліць у сярэднім і канцавым тасунку.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫЙ — запраўдны; действительный корень — істотны карэнь; мнимый корень — выабражаны карэнь.

ДЕЙСТВИТЕЛЬНО — запраўды.

ДЕЛИМОЕ — дзельны.

ДЕЛИМОСТЬ — падзельнасьць.

ДЕЛИТЕЛЬ — дзельнік.

ДЕСЯТИЧНАЯ ДОЛЯ, ДРОБЬ — дзесятковая частка.

ДИАГОНАЛЬ — дыяганаль (грэц. dia — пераз; gonia — кут), касада; пересечение диагоналей — перасеча касодаў.

ДИАГРАММА — дыяграма.

ДИАМЕТР — дыямэтр (грэц. dia—пераз і metron—мера), (пярокруг, пяракруг?). (Усякі дыямэтр дзеліць акружнасьць і круг папалам).



ДИАМЕТРАЛЬНЫЙ — дыямэтральны (перакружны, перакружны).

ДИСК — дыск (грэцк. diskos — круглая плошка), кружак; дисковый — кружасты, дысковы.

ДЛИНА — даўжыня

ДЛЯ — для.

ДОБАВЛЕНИЕ — дадатак; добавление к отделу — дадатак да разьдзелу.

ДОКАЗАТЕЛЬСТВО — довад; доказательство по способу наложения, приложения, от противнаго — довад спосабам накладаньня, прыкладаньня, ад супраціўнага. [Тэарэма. Ва ўсякім прастакутніку касоды роўны. Довад. Хай ABC (рыс. 84 а.) ёсьць прастакутнік, а AC і BD яго касоды; трэба давесьці, што AC=BD. Прастакутныя трыкутнікі ACD і ABD роўны, таму што ў іх: AD супольны катэт і AB = CD (як супроцьлеглыя бакі раўналеглабочніка, паралелаграма), з роўнасьці тр-кау вынаікае: AC=BD].

ДОКАЗЫВАТЬ — даводзіць; докажите способом от противнаго — давядзіце спосабам ад супраціўнага.

ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ УГОЛ — дапаўніцельны кут; дополнительный отдел — дадатковы разьдзел. [У дапаўніцельных кутах функцыі аднаго кута адпаведна роўны сходным (па назове) функцыям другога].

ДРОБНЫЙ — частковы; дробное выражение — частковае выражэньне.





ДРОБЬ — частка (дроб, дробязь?); привести дроби к общему знаменателю — зьвясьці часткі да агульнага назоўніка; приведение дробей к одн. знам. — зьвядзеньне частак да аднаго назоўніка; действия над дробнами числами — (дзеі) дзеяньні з частковымі лічбамі; десятичная дробь — дзесятковая частка; правильная дробь — правільная частка.

ДУГА (в геометрии) — дугавіна; дуга (часть упряжи) — дуга.

ДЮЙМ — цаль.

## Е

ЕДИНИЦА — адзінка; единица длины, площади, об'ема — адзінка даўжыні, плошчы, абыйма.

ЕСТЕСТВЕННЫЙ РЯД ЧИСЕЛ — прыродны сьцяг лічбаў.

## З

ЗАВИСЕТЬ — залежыць; величина поверхности шара зависить от величины его радиуса — велічына паверхні клуба залежыць ад велічыны яго лучака (радыюса).

ЗАВИСИМОСТЬ — залежнасьць; зависимость величины сторон тр-ка от углов — залежнасьць велічыні бакоў тр-ка ад кутоў.



ЗАДАЧА — задача; условие, содержание задачи — варунак, зьмест задачы; решить задачу — разьвязаць задачу; числовые данные задачи — лічбовыя даныя задачы.

ЗАДАЧА ГЕОМЕТРИИ, ТРИГОНОМЕТРИИ — задача геамэтрыі, трыганамэтрыі; задача геометрическая, тригонометрическая — задача геамэтрычная, трыганамэтрычная.



ЗАДАЧНИК — задачнік.

ЗАКЛЮЧЕНИЕ ТЕОРЕМЫ — заключэньне тэарэмы.

ЗАМЕТИТЬ (в смысле запомнить) — зацяміць.

ЗАМЕЧАНИЕ — увага.

ЗАМЕЧАТЕЛЬНЫЕ ТОЧКИ ТРЕУГОЛЬНИКА — асаблівыя пункты трыкутніка.

ЗАМКНУТЫЙ МН-К — замкнуты мн-к.

ЗЕМЛЕМЕРИЕ — землямерніцтва.

ЗНАМЕНАТЕЛЬ — назоўнік.

ЗНАЧЕНИЕ (числовое) — (лічбовая) вартасьць.

## И

ИЗВЛЕЧЕНИЕ КОРНЯ — знаход караня; показатель корня — паказчык караня; подкоренное количество — падкарнявая сколькасьць; вывести множитель из под знака радикала — вывясьці

множнік з пад знаку радыкала; место под корнем — мейсца пад каранём.

ИЗВЛЕЧЬ КОРЕНЬ — знайсьці карэнь; извл кор. 5-ой степени — знайсьці карэнь пятай ступені.

ИЗМЕНЕНИЕ — зьмена.

ИЗМЕРЕНИЕ (как понятие) — памер; всякое физическое тело имеет три измерения — ўсякае фізычнае цела мае тры памеры; мы живем в мире трех измерений — мы жывем у сьвеце трох памераў.

ИЗМЕРЕНИЕ (как действие) — мераньне, памер, сызмер, вымер, абмер; измерить расстояние от А до В — вымерыць адлегласьць ад А да В; измерить площадь — зьмерыць, абмерыць плошчу.

ИЗОБРАЖАТЬ — выабражаць; на рисунке изображено — на рысунку выабражана.

ИЗАБРОЖЕНИЕ — выабражэньне.

ИЗСЛЕДОВАНИЕ — дасьледаваньне, досьлед; изследователь — дасьледчык.

ИЗСЛЕДОВАТЬ — дасьледаваць.

ИМЕНОВАННОЕ ЧИСЛО — мяноўная лічба (іменная, мераная лічба).

ИМЕННО — найменна.

ИРРАЦИОНАЛЬНЫЙ — ірацыянальны (лац. irrationalis — неразумны, немагчымы да зразуменьня); иррац. число, выражение — ірацыянальная лічба, выражэньне.



ИСКОМЫЙ — шуканы.

ИТАК — гэтакім, такім чынам, ітак.

И Т. Д. — і г. д.

ИТОГ — падрахунак.

## К

КАСАНИЕ — дотык; отдел о касании (окружности с прямой, окружностей между собой) — разьдзел аб дотыку (акружнасьцяў з простай, акружнасьцяў паміж сабой); точка касания — пункт дотыку.

КАСАТЬСЯ — датыкацца; прямая касается окружности — простая датыкаецца акружнасьці; это меня не касается — гэта мяне не датыча.

КАСАТЕЛЬНАЯ — датычная. [Тэарэма. Калі простая прастападна к лучаку (радыюсу) у канцы яго, ляжачым на акружнасьці, то яна ёсьць датычная. Тэарэма. Датычная, раўналеглая хордзе, дзеліць ў пункце дотыку дугавіну, сьцягваную хордай, папалам. Тэарэма. Пласмо прастападнае к лучаку (радыюсу) у канцы яго, ляжачым на паверхні клуба, ёсьць датычная].

КАТЕТ — катэт, рамо, рамы; в прямоугольном, равнобедренном тр-ке катеты равны между собой — у простакутным, раўнабедрым тр-ку рамы (катэты) роўны паміж сабой. [Катэт ровен укосьніцы (гіпотэнузе), памножанай на сінус супроцьлеглага кута або на косінус прылег-

лага. Катэт ровен другому катэту, памножа наму на тангенс, супроцьлеглага першам катэту, або на котангенс кута, прылеглаг к першаму катэту].

КВАДРАНТ — квадрант.

КВАДРАТ — квадрат.

КВАДРАТНЫЙ (корень, метр) — квадратны (карэн мэтр).

КВАДРАТУРА — квадратура.

КИЛОМЕТР — кілёмэтр (грэцк. chilioi — тысяча metron — мера).

КОНЕЧНЫЙ — абмежаны, аканчальны; через точку А проведены две прямыя: одна безконечная, другая конечная — праз пункт А праведзены дзьве прастыя, адна бязьмежная, другая абмежаная; в конечном итоге мы получили 5 — у аканчальным падрахунку мы атрымалі 5.

КОНИЧЕСКИЙ — канічны, кучменны; коническая поверхность — конічная, кучменная паверхня; поверхность конуса — паверхня конуса, кучмяня.

КОНУС — конус (грэцк. konos шышка), кучмень. [Бакавая паверхня урэзанага конуса (кучмяня) роўна множыву акружнасьці сярэдняга сечыва на творачую].

КОНЦЕНТРИЧЕСКИЙ — канцэнтрычны (лац. слова якое знача аднацэнтравы, супольнацэнтравы, аднаасяродкавы, супольнаасяродкавы).



КООРДИНАТЫ — каардынаты.

КОРЕНЬ — карэнь; извлечь корень 3-ей степени — знайсьці карэнь 3-яй ступені (гл. сл. Извлечение корня).

КОСЕКАНС — касэканс; линия косеканса — лінія касэканса.

КОСИНУС — косінус; линия косинуса — лінія косінуса.

КОСИНУСОИДА — косінусоіда.

КОСО — наўскос.

КОСОЙ — косы, укосны.

КОТАНГЕНС — катангенс; линия котангенса — лінія катангенса.

КОЭФФИЦИЕНТ — коэфіцыент (лац. cum — разам з; efficiens — робячый).

КРАТНОЕ — кротнае; наименьшее кратное — найменшае кротнае.

КРАТНЫЙ — кротны.

КРАТЧАЙШИЙ — найкаротшы; кратчайшее разстояние между двумя точками есть прямая — найкаротшая адлегласьць паміж двумя пунктамі ёсьць простая.

КРИВОЛИНЕЙНЫЙ — крывалінейны.

КРУГ — круг; большой круг шара — вялікі круг клуба; диск — дыск, кружак; цилиндр — кругляч.

КРУГЛЫЕ ТЕЛА — круглыя целы.

КУБ — куб (грэцк. kybos — рэч з шасьцю сьценамі прыкл. абрубак дрэва), правільны шасьцісьцен.

КУБАТУРА — кубатура.

КУБИЧЕСКИЙ — кубічны; кубическое ур-ие — кубічнае раўн-е; кубический корень — кубічны карэнь; кубический метр — кубічны мэтр; тело формы куба — кубавіднае цела.

## Л

ЛЕКАЛО — лекало.

ЛЕММА — лема (грэцк. lemma—наўзабежнае, умоўнае палажэньне, на аснове якога разважаюць далей).

ЛИМБ — лімб (лац. limbus — край адзежы, тасемка і г. д.).

ЛИНЕЙКА — лінейка; масштабная линейка — маштабная лінейка.

ЛИНИЯ — лінія (лац. lineum — надрэз, націск, рыска); прямая л. — простая л.; кривая л. — крывая л.; ломаная л. — ламаная л.; выпуклая л. — выпуклая л.; вогнутая, ломаная л. — уклянслая, ламаная л.; вогнутая кривая — уклянслая крывая.

ЛИНЕЙНЫЙ УГОЛ — кут, лінейны кут; (гл. сл угол).

ЛОГАРИФМ — лёгагарытм; основание логарифма — аснова (або карэнь) лёгарытму.



ЛОГАРИФМИРОВАНИЕ — лёгарытмаваньне.

ЛОГАРИФМИРОВАТЬ — лёгарытмаваць

ЛОГАРИФМИЧЕСКИЙ — лёгарытмічны; логарифмические таблицы — лёгарытмічныя табліцы; выражение логарифмическаго и нелогарифмическаго вида — выражэньне лёгарытмічнага і нелёгарытмічнага віду; привести к логарифмическому виду — надаць лёгарытмічны від (або зьвясьці к лёгарытмічнаму віду).

ЛОМАНАЯ ЛИНИЯ — ламаная лінія. (Адрэз простай карацей усякай ламанай, праведзенай паміж яго канцамі).

ЛУНОЧКИ (Гипократовы) — маладзічкі (Гіпократа).

ЛУЧ (полупрямая) — прамень (напоўпростая).

ЛЮБОЙ — любы, які хаця, давольны.

## М

МАСШТАБ — маштаб (ням. Masstab — палка для мераньня); масштабная линейка — маштабная лінейка (сумер).

МАТЕРИАЛЬНЫЙ — матэрьяльны (лац. materia).

МЕДИАНА — мэдыяна (лац. medium — сярэдзіна).

МЕНЗУЛА — мензула (лац. mensula — маленькі столік).

МЕРА — мера; мера об'ема, сыпучих и жидких тел — мера обыйма, сыпучых, і плыўкіх целаў.

МЕРНАЯ ЦЕПЬ — мерчы ланцуг.

МЕТОД — мэтода (грэцк. methodos — шуканьне, разгляд, дасьледаваньне, а так сама спосаб шуканьня, дасьледаваньня).

МЕТР — мэтр (грэцк. metron — мера); квадратный, кубический метр — квадратны, кубічны мэтр.

МЕТРИЧЕСКИЙ — мэтрычны; метрическая система — мэтрычная сыстэма.

МИЛИМЕТР — мілімэтр.

МИНУС — мінус (лац. minus — менш); соединить знаком минус — злучыць знакам мінус.

МИНУТА ДУГОВАЯ, УГЛОВАЯ — мінута дугавая, кутавая (лац. minutus — разьдзелены, раздробнены).

МНИМЫЙ — выбражаны; мнимый корень — выбражаны карэнь

МНОГОГРАННИК — мнагасьцен. (Мнагасьценам завецца цела, абмежанае з усіх старон плосмамі).

МНОГОГРАННЫЙ (телесный) УГОЛ — рог, мнагасьценны кут. (Гл. сл. угол).

МНОГОУГОЛЬНИК — мнагакутнік.

МНОГОУГОЛЬНЫЙ — мнагакутны.

МНОГОЧЛЕН — мнагасклад; 2-3-4-член — двусклад, трысклад, чатырасклад; однородный многочлен — аднародны мнагасклад.

МНОЖИМОЕ — множнае.

МНОЖИТЕЛЬ — множнік.



## Н

НАБЛЮДАТЕЛЬ — назоршчык, спасьцярагач.

НАБЛЮДАТЕЛЬНОСТЬ — назорлівасьць, спасьцярожлівасьць.

НАБЛЮДАТЬ — назіраць.

НАБЛЮДЕНИЕ — назор, спасьцярога.

НАЙБОЛЬШИЙ — найбольшы, найвялікшы.

НАИМЕНОВАНИЕ — найменьне.

НАЙМЕНЬШИЙ — найменшы.

НАКЛОННАЯ — пахілая. (Калі з аднаго і таго-ж пункту, ўзятага зьне простай, праведзены да гэтай простай прастапад і якія-хаця пахілыя то: 1⁰. Найкаротшая з усіх гэтых простых ёсьць прастапад. 2⁰. Калі дзьве пахілыя роўны, то іх асновы аднолькава аддалены ад асновы прастапада).

НАКРЕСТ ЛЕЖАЩИЕ УГЛЫ (внутрение, внешние) — наўскрыжныя куты (унутраныя, зьнешнія).

НАЛОЖЕНИЕ — наклад, накладаньне; наложением — накладам, накладаньнем; наложить одну фигуру на другую — накласьці адну фігуру на другую.

НАПРАВИТЬ — сьціраваць.

НАПРАВЛЕНИЕ — кірунак; в направлении — у кірунку; прямая идет в обратном направлении — простая ідзе ў адваротным кірунку.

НАПРАВЛЯЮЩАЯ (линия) — кіруючая лінія.

НАПРАВЛЯТЬ — кіраваць.
НАПРИМЕР — прыкладам, (але не напрыклад!)
НАУГОЛЬНИК — вінкель.
НАХОЖДЕНИЕ — знаход; для нахождения площади тр-ка необходимо... — для знаходу плошчы тр-ка неабходна...
НАЧЕРТИТЬ — нарысаваць; начертить прямую — нарысаваць простую.
НЕВОЗМОЖНО — немагчыма; невозможное решение — немагчымае разьвязаньне.
НЕЗАМКНУТЫЙ — нязамкнуты.
НЕЛЕПОСТЬ — недарэчнасьць, абсурд.
НЕОБХОДИМОЕ и ДОСТАТОЧНОЕ УСЛОВИЕ — абавязковы і здаваляючы варунак.
НЕОГРАНИЧЕННЫЙ — неабмежаны, бязьмежны.
НЕОПРЕДЕЛЕННОСТЬ — неазначанасьць.
НЕОПРЕДЕЛЕННЫЙ (ответ) — неазначаная адповедзь (адказ); неопределенное решение — неазначанае разьвязаньне; неопределенное ур-ние — неазначанае раўнаваньне.
НЕПРЕРЫВНЫЙ — безперарыўны; непрерывный ряд чисел — безперарыўны сьцяг лічбаў; непрерывная и разрывная функция — безперарыўная і разрыўная функцыя; непрерывная пропорция, дробь — безперарыўная прапорцыя, частка.
НЕРАВЕНСТВО — няроўнасьць
НЕСОВМЕСТИМЫЙ — нясумесьцімы.



НЕСОИЗМЕРИМЫЙ — нясумерны, (нясызмерны?); отношение длины окружности к диаметру есть число несоизмеримое — тасунак даўжыні акружнасьці да дыямэтра ёсьць лічба нясумерная (нясызмерная); эти два отрезка несоизмеримы между собой — гэты два адрэзы нясумерны паміж сабой.
НЕЧЕТНЫЙ — няпарны (няцотны).
НОРМАЛЬ — нармаль (прастапад) (лац. norma — звычай).
НУЛЕВОЙ — нулявы; нулевое решение — нулявое разьвязаньне.
НУЛЬ — нуль (лац. nulus — ніякі).



ОБОБЩАТЬ — абагульняць, уагульняць
ОБОБЩЕНИЕ — абагульненьне, уагульненьне
ОБОЗНАЧЕНИЕ — абазначаньне
ОБОЗНАЧИТЬ — обазначыць.
ОБРАЗ — абраз; таким образом — гэтакім чынам, такім чынам.
ОБРАЗОВАТЬ — стварыць; образовывать — тварыць; линии AB и AC образуют между собой угол BAC — лініі AB і AC твораць сабой кут BAC.
ОБРАТИМЫЙ (формулы, выражения, предложения) — зваротны (формулы, выражэньні, сказы).
ОБРАТНЫЙ — адваротны; обратная теорема — адваротная тэарэма.

ОБРАЩАТЬ, ОБРАТИТЬ — ператвараць, ператварыць; обратить данный мн-к в равновеликий тр-к — ператварыць дадзены мнагакутнік у раўнавялікі трыкутнік; наклонную призму обратить в равновеликую прямую — пахілую прызму ператварыць у раўнавялікую простую.

ОБРАЩАТЬСЯ (в 0) — абертацца (ў 0).

ОБЩАЯ МЕРА — агульная мера.

ОБЩИЙ — агульны, супольны; два данных тр-ка имеют общую сторону — два дадзеных трыкутнікі маюць супольны бок; общее понятие — агульнае паняцьце.

ОБ'ЕМ — абыймо; мера об'ема — мера обыйма. (Роўныя целы, г. зн. каторыя сумяшчаюцца пры ўкладаньні, маюць роўныя абыймы, незалежна ад іх палажэньня ў прасторы)

ОБ'ЕМЛЕМАЯ — абнятая.

ОБ'ЕМЛЮЩАЯ — абымаючая. (Выпуклая лінія карацей усякай абымаючай яе лініі).

ОГРАНИЧИВАТЬ — абмежаць, абмежываць.

ОГРАНИЧЕННЫЙ — абмежаны.

ОДИНАКОВО — аднолькава; геометрическое место точек, одинаково удаленных от сторон угла, есть биссектрисса этого угла — геамэтрычнае мейсца пунктаў аднолькава адлеглых ад бакоў кута, ёсьць раўнадзелячая гэтага кута.



ОДНОЗНАЧНЫЙ — адназначны

ОДНОИМЕННЫЙ — аднайменны.

ОДНОМЕРНЫЙ — аднамерны.

ОДНОРОДНЫЙ — аднародны; однородный многочлен — аднародны мнагасклад.

ОДНОСТОРОННИЕ УГЛЫ (внутренние, внешние) — аднастаронныя куты (унутраныя, зьнешнія).

ОДНОЧЛЕН — аднасклад.

ОДНОЧЛЕННЫЙ — аднаскладны.

ОЗНАЧАТЬ — значыць.

ОКРУЖНОСТЬ — акружнасьць (кола?); провести окружность через три точки — правясьці акружнасьць праз тры пункты; вписать окружность в тр-к — умежыць акружнасьць у трыкутнік; описать окружность около тр-ка — абмежыць акружнасьць каля трыкутніка. (Простая і акружнасьць ня могуць мець больш двох супольных пунктаў).

ОПИРАТЬСЯ — апірацца; опирающийся — абаперты; угол ABC опирается на дугу АрС — кут ABC, апіраецца на дугавіну АрС; построить угол опирающийся на.... — пабудаваць кут абаперты на ...

ОПИРАЮЩИЙСЯ — абаперты; вписанный угол, опирающийся на диаметр, есть прямой — умежаны кут, абаперты на дыямэтр, ёсьць просты.

ОПИСАННЫЙ (тр-к, мн-к, окружность, угол) — абмежаны (тр-к, мн-к, акружнасьць, кут). [Тэарэма. Каля ўсякага трыкутніка можна абмежыць акружнасьць і прытым толькі адну].

ОПРЕДЕЛЕНИЕ — азначаньне, акрэсьленьне, знаход; определить данное понятие — азначыць данае паняцьце; определить площадь тр-ка по его сторонам — знайсьці плошчу тр-ка з яго бакоў.

ОПРЕДЕЛЕННЫЙ — азначаны, акрэсьлены; определенное ур-ие — азначанае раўнаваньне.

ОПУСТИТЬ — апусьціць; из точки А опустить перпендикуляр на данную прямую — з пункту А апусьціць прастапад на даную простую.

ОПЫТ — дасьлед, досьлед.

ОСВОБОДИТЬ ВЫРАЖЕНИЕ ОТ ДРОБЕЙ, РАДИКАЛОВ — асвабадзіць выражэньне ад частак, радыкалаў.

ОСНОВАНИЕ (тр-ка, трапеции пирамиды) — аснова (тр-ка, трапэцыі, піраміды...).

ОСНОВАНИЕ СТЕПЕНИ, ЛОГАРИФМА — аснова (карэнь) ступені, лёграытма.

ОСНОВНОЙ — аснаўны; основывать — асновываць, асноўваць.

ОСТАТОК — астача.

ОСТРЫЙ УГОЛ — востры кут; остроугольный треугольник — вастракутны трыкутнік.



ОСЕВОЙ — васёвы; осевое сечение — васёвае сячэньне.

ОСЬ — вось.

ОТВЛЕЧЕННЫЙ — адвалочны.

ОТВЕТ — адповедзь, адказ.

ОТЛОЖИТ (отрезок) — адлажыць (адрэз).

ОТМЕТИТЬ (угол, отрезок...) — адзначыць (кут, адрэз...).

ОТНОСИТЕЛЬНЫЙ — тасунковы; относительное положение окружностей — тасунковае палажэньне акружнасьцяў.

ОТНОСИТЬСЯ — тасавацца; отрезок AB так относится к CD, как 2 относятся к 3 — адрэз AB так тасуецца да CD, як 2 тасуецца да 3.

ОТНОШЕНИЕ — тасунак (адносіны?); предыдущий и последующий члены отношения — пярэдні і чародны склады тасунку; знаменатель отношения — назоўнік тасунку; нахождение отношения — знаход тасунку; кратное отношение — кротны тасунак. (Тасункам дзьвёх вартасьцяў A і B аднэй і тэй жа велічыны завецца лічба мерачая A, калі B прынята за адзінку; інакш,... лічба, на каторую трэба памножыць B, каб атрымаць A).

ОТРИЦАНИЕ — пярэчаньне.

ОТРИЦАТЕЛЬНЫЙ (величина) — адʼёмны; отрицательное число — адʼёмная лічба;

отрицательное направление — ад'ёмны кірунак.

ОТРЕЗОК (прямой) — адрэз (простай).

ОЧЕВИДНО — ачавіста.

## П

ПАДЕНИЕ — паданьне.

ПАРАБОЛА — парабола (лац. parabole—постаноўка дзьвёх рэчаў адна пры другой для параўнаньня).

ПАРАБОЛИЧЕСКИЙ — параболічны.

ПАРАБОЛОИД — параболоід.

ПАРАЛЛЕЛЕПИПЕД — паралелепіпед (слова грэц.), раўналегласьцен (рауналежнасьцен). [Раўналегласьценам (паралелепіпедам) завуць прызму, у каторай асновамі служаць раўналеглабочнікі (паралелаграмы)].

ПАРАЛЛЕЛОГРАМ — паралелаграм, раўналеглабочнік (раўналежнабочнік). [Ва ўсякім раўналеглабочніку (паралелаграме) касоды (дыяганалі) дзеляцца папалам].

ПАРАЛЛЕЛЬНЫЙ — паралельны, раўналеглы (раўналежны). [Праз адзін і той-жа пункт нельга правясьці дзьвёх розных простых, раўналеглых аднэй і тэй-жа простай. Калі бакі аднаго кута адпаведна раўналеглы бакам другога кута, то такія куты або роўны, або ў суме складаюць два простых].

ПАРАЛЛЕЛЬНО — раўналегла, (раўналежна), паралельна.

ПЕРЕНЕСЕНИЕ — перанос.



ПЕРЕМЕННЫЙ — зьменны, пераменны; переменная величина — зьменная, пераменная велічыня.

ПЕРЕСЕКАЕМАЯ — перасечная, перасечаная.

ПЕРЕСЕКАТЬ — перасякаць; линия пересекает фигуру — лінія перасякае фігуру.

ПЕРЕСЕКАЮЩАЯ — перасякаючая (або перасечніца).

ПЕРЕСЕЧЕНИЕ — перасеча (перасек?); линия пересекающая — перасечніца (або лінія перасякаючая); линия пересекаемая — перасечная (або перасечаная) лінія; точка пересечения — пункт перасечы (перасеку).

ПЕРЕСТАНОВКИ (в алг.) — перастаўкі.

ПЕРИМЕТР — пэрымэтр (грецк. perimetreo — мераю кругом, кругамер).

ПЕРИОД — пэрыёд (грецк. periodos—абход, дазор, правільнае паўтарэньне руху, расклад парадку грамадзкіх гульняў).

ПЕРИОДИЧЕСКИЙ — перыёдычны; периодическая функция — пэрыёдычная функцыя; синус изменяется периодически — сінус зьмяняецца пэрыёдычна.

ПЕРПЕНДИКУЛЯР — прастапад, пэрпэдыкуляр (лац. perpendiculum—нітка з цяжарам на канцы); перпендикуляр к линии АВ — прастапад да лініі АВ; опустить пер-

пендикуляр на линию AB — апусьціць прастапад на лінію AB; возставить перпендикуляр к прямой AB — падняць (або паставіць) прастапад на (да) простай AB. (Простая завецца прастападнаю к пласму, калі яна перасякаецца з гэтым пласмом і пры гэтым творыць простыя куты з усімі простымі праведзенымі на пласме праз пункты перасечы).

ПЕРПЕНДИКУЛЯРНЫЙ — прастападны; линия AB перпендикулярна к CD — лінія AB прастападна да CD; линия MN і KL взаимно перпендикулярны — лінія MN і KL ўзаемна прастападны.

ПИРАМИДА — піраміда; усеченная, правильная пирамида — урэзаная, правільная піраміда. [Тэарэмы. Калі піраміда перасечана пласмом, раўналегла аснове, то: 1⁰, бакавыя канты і вышына дзеляцца гэтым пласмом на часьці прапарцыянальныя; 2⁰, у сечыве атрымліваецца многакутнік, падобны аснове; 3⁰, плошчы сечыва і асновы тасуюцца, як квадраты іх адлегласьцяў ад вершадзі]. (Пірамідаю завуць мнагасьцен, у каторага адна сьцяна, званая асноваю, ёсьць які-небудзь мнагакутнік, а ўся рэшта сьцен званых бакавымі — трыкутнікі, маючыя супольную вершадзь).

ПЛАН — плян (лац. planus — роўны, гладкі, ясны, зразумелы); составить план решения задачи — скласьці плян разьвязаньня задачы; снять план местности — сплянаваць мяйсцовасьць (або зрабіць плян мяйсцовасьці).



ПЛАНИМЕТРИЯ — планімэтрыя (лац. planus — роўны; грэцк. metron — мера), або плосмая геамэтрыя.

ПЛАНИМЕТРИЧЕСКАЯ ЗАДАЧА — планімэтрычная задача.

ПЛОСКОСТЬ — пласмо (плашчына роўнядзь?); две плоскости — два пласмы. [Пласмом завецца паверхня, абладаючая тэй свомасьцю, што простая, праходзячая праз два давольныя пункты гэтай паверхні, ляжыць на ёй усімі другімі сваімі пунктамі. Усякую часьць пласма можна налажыць усімі яго пунктамі на другое мейсца гэтага або другога пласма, пры чым накладаную часьць можна наўзабежна перавярнуць на другую старану].

ПЛОСКИЙ — плосмы, плоскі; плоский угол — кут (або плосмы кут).

ПЛОЩАДЬ — плошча; определить площадь — акрэсліць (знайсьці) плошчу; меры площадей — меры плошчаў. [Лема. Плошчы двох прастакутнікаў, маючых роўныя асновы, тасуюцца як іх вышыні. Тэарэма. Плошчы двох трыкутнікаў, маючых па роўным куце, тасуюцца; як множыва бакоў, зьмяшчаючых гэты куты].

ПОВЕРХНОСТЬ — паверхня (вярхніна?); боковая, полная пов. — бакавая, поўная паверхня; кривая, круглая поверхность — крывая, круглая паверхня.

ПОВЕРХНОСТНЫЙ — паверхні.

ПОВЕРКА (ответа) — праверка.

ПОДКОРЕННОЕ КОЛИЧЕСТВО — падкарнявая скольдасьць.

ПОДКОРЕННОЕ МЕСТО — падкарнявое мейсца (або мейсца пад каранём).

ПОДОБИЕ — падобнасьць; отдел о подобии — разьдзел аб падобнасьці; признаки подобия тр-ков — азнакі падобнасьці тр-каў.

ПОДОБНЫЙ — падобны; подобные члены, тр-ки — падобныя склады, тр-кі; приведение подобных членов — зьвядзеньне (сызвод?) падобных складаў. (Два многакутнікі з аднолькавым лікам бакоў завуцца падобнымі, калі куты аднаго адпаведна роўны кутам другога і аднародныя бакі іх прапарцыянальны).

ПОДСТАНОВКА — падстаноўка; произвести подстановку — зрабіць падстаноўку.

ПОКАЗАТЕЛЬ СТЕПЕНИ, КОРНЯ — паказчык ступені, караня; привести радикалы к общему показателю корня — зьвясьці радыкалы да агульнага паказчыка караня.



ПОЛОЖЕНИЕ (геометрическое) — аснова (геамэтрычная).

ПОЛОЖИТЕЛЬНЫЙ — дадатны; положительное направление — дадатны кірунак; продолжить отрезок в положительном направлении — прадоўжыць адрэз у дадатным кірунку.

ПОЛУСУММА — поўсума; прямая, соединяющая средины боков трапеции, параллельна основаниям трапеции и равна полусумме их — простая, якая лучыць сярэдзіны бакоў трапэцыі раўналегла асновам трапэцыі і роўна паўсуме іх.

ПОЛУОКРУЖНОСТЬ — поўакружнасьць.

ПО ОБЕ СТОРОНЫ — абапал, з абедзьвюх старон; по обе стороны от прямой АВ лежат точки... — абапал простай АВ ляжаць пункты; по обе стороны от прямой можно провести... — з абедзьвюх старон ад простай можна правесьці... (З усялякага пункту простай, абапал ад яе, можна падняць к ёй прастапад і прытым толькі адзін).

ПО ОДНУ СТОРОНУ — з аднэй стараны (аднапал?)

ПОПЕРЕЧНЫЙ — папярэчны; поперечное сечение — папярэчнае сячэньне, папярэчнае сечыва.

ПОРОЗНЬ — паасобку; если две величины равны порознь одной и той

же третьей величине, то они равны между собой — калі дзьве велічыні роўны паасобку аднэй і тэй жа трэцяй велічыне, то яны роўны паміж сабой.

ПОСРЕДСТВОМ — пры помачы.

ПОСЛЕДОВАТЕЛЬНО — пастуленна.

ПОСЛЕДОВАТЕЛЬНЫЙ — паступенны; последовательное деление — паступеннае дзяленьне.

ПОСЛЕДУЮЩИЙ — чародны; последующий член отношения — чародны склад тасунку.

ПОСТОЯННЫЙ — сталы; постоянная величина — сталая велічыня.

ПОСТРОЕНИЕ — пабудова; построение тр-ка, мн-ка — пабудова трыкутніка, мнагакутніка.

ПОСТРОИТЬ — пабудаваць; построить тр-к по данным его сторонам — пабудаваць тр-к па даных яго бакох.

ПОСТУПАТЕЛЬНОЕ ДВИЖЕНИЕ — паступны рух.

ПОСТУЛАТ — пастулят (лац. postulatum — трэбаваньне, вялікае жаданьне).

ПОЧЛЕННО — паскладна.

ПРАВИЛО — правіла, правілы.

ПРАВИЛЬНЫЙ — правільны, справядлівы.

ПРЕВРАЩАТЬ (сантиметры в метры) — збуйняць (сантымэтры у мэтры).

ПРЕВРАЩЕНИЕ (как матем. действие) — збуйненьне.



ПРЕДВАРИТЕЛЬНЫЙ — наўзабежны.

ПРЕДЛОЖЕНИЕ — сказ.

ПРЕДЫДУЩИЙ — папярэдні; (але: предыдущий член отношения — пярэдні склад тасунку).

ПРЕДЕЛ — рубеж; способ пределов — спосаб рубяжоў. [Рубяжом пераменнай велічыны, зав. такая сталая велічыня, да каторай пераменная пабліжаецца так, што розніца паміж імі імкнецца да нуля, г. зн. яна робіцца і астаецца менш усякай данай вартасьці. Лема. Абыймо кругляча ёсьць супольны рубеж абыймаў правільных умежаных і абмежаных прызмаў пры бязмежным падваеньні ліку іх бакавых сьценаў].

ПРЕДЕЛЬНЫЙ — рубежны; предельное значение велич. — рубежная вартасьць (значэньне) велічыны.

ПРЕОБРАЗОВАНИЕ — пературэньне

ПРЕОБРАЗОВАТЬ — перетварыць.

ПРИ — пры; углы при основании, при гипотенузе — куты пры аснове, пры укосьніцы (гіпотэнузе).

ПРИБЛИЗИТЕЛЬНЫЙ — прыблізны; приблизительно верный — прыблізна правільны (справядлівы, праўдны).

ПРИБЛИЖАТЬСЯ — прыбліжацца, зблажацца; приближается к нулю, к пределу, к точке А — прыбліжаецца (зблажаецца) да нуля да рубежа, да пункта А [або: прыб-

ліжаецца (збліжаецца) к нулю, к рубяжу к пункту А].

ПРИБЛИЖЕНИЕ — прыбліжэньне; найти с приближением до 0,01 — знайсьці з прыбліжэньнем да 0,01.

ПРИБЛИЖЕННЫЙ — прыблажаны, зблiжаны; найти приближенное отношение с точностью до 0,1 — знайсьці прыбліжаны тасунак з пунктуальнасьцю до 0,1.

ПРИБОР — прылада.

ПРИВЕДЕНИЕ — зьвядзеньне (сызвод?); формулы приведения — формулы зьвядзеньня (сызводу); привести к виду... — зьвясьці к віду (надаць від).

ПРИЗМА — прызма (грэцк. сл. якое знача адрэзбярна з плосмымі сьценамі).

ПРИЗНАК — азнака, прымета; признак равенства, подобия тр-ков — азнака (прымета) роўнасьці, падобнасьці тр-каў; признаки делимости — азнакі (прыметы) падзельнасьці.

ПРИЛЕЖАЩАЯ — прылеглая; два тр-ка ровны если два угла и прилежащая к ним сторона однаго тр-ка соответственно равны двум углам и прилежащей к ним стороне другого тр-ка — два тр-кі роўны калі два куты і прылеглы да іх бок аднаго тр-ка



адпаведнi роўны двум кутам і прылегламу к ім боку другога тр-ка.

ПРИЛОЖЕНИЕ — дадатак, прыкладнаьне, датасоўка; приложение к журналу — дадатак да журнала; доказательство путем приложения — довад шляхам прыкладаньня (або довад прыкладаньнем); приложение алгебри к геометрии — датасоўка (прытасаваньне) альгэбры да геамэтрыі.

ПРИНЦИП — прынцып (лац. principium — пачатак, аснова. першы варунак), падваліна.

ПРОВЕСТИ — правясьці; провести прямую линию — правясьці простую лінію; провести, построить биссектриссу — правясьці, пабудаваць бісэктрысу (раўнадзелячую).

ПРОВЕРКА — праверка; контрольное вычисление — праверачнае (кантрольнае) аблічэньне.

ПРОВЕШИВАТЬ (прямую) — правехаваць, правадзіць простую, (паставіць вехі, вызначыць вехамі).

ПРОДОЛЖИТЬ — прадоўжыць; продолжить сторону на разстояние равное CD — прадоўжыць бок на адлегласьць роўную CD.

ПРОДОЛЖЕНИЕ — прадоўжаньне, працяг.

ПРОДОЛЬНЫЙ — прадоўжны; продольное сечение — прадоўжнае сячэньне, сечыва (або сячэньне у доўжкі).

ПРОЕКТ — праект (лац. projectum — кінутае наперад, нарысаванае з самага пачатку).

ПРОЕКЦИЯ — проекцыя, насьцень.

ПРОЕКТИВНЫЙ — проектыўны, насьценны?

ПРОИЗВЕСТИ — вывясьці, учыніць (зрабіць); произвести действие умножения — учыніць, зрабіць дзеяньне памножаньня; произвести одну величину из другой — вывясьці адну велічыну з другой.

ПРОИЗВОДНЫЙ — вывадны; производная пропорция — вывадная прапорцыя.

ПРОИЗВОЛЬНО — давольна, (адвольна?)

ПРОИЗВОЛЬНЫЙ — давольны.

ПРОПОРЦИОНАЛЬНОСТЬ — прапарцыянальнасьць; прямая и обратная пропорциональность — простая і адваротная прапарцыянальнасьць.

ПРОПОРЦИОНАЛЬНЫЙ — прапарцыянальны; пропорциональная зависимость — прапарцыянальная залежнасьць.

ПРОПОРЦИЯ — прапорцыя (лац. proportio — адпаведня, раўнамернасьць, тасунковасьць); крайние, средние члены пропорции — канцавыя, сярэднія склады прапорцыі; арифметическая (разностная), геомерическая (кратная) пропорция; — арытмэтычная (рознічная), гэамэтрычная (кротная) прапорцыя; непрерывная проп. — безперарыўная прапорцыя; среднее арифметическое, геометрическое — сярэдняе арытмэтычнае, геамэтрычнае.



ПРОСТРАНСТВО — прастор; пространственный — прасторлівы. (Праз усякіх два пункты прастору можна правесьці простую і прытым толькі адну).

ПРОТИВ — супроць; во всяком треугольнике против равных сторон лежат равные углы — ваўсякім трыкутніку супроць роўных бакоў ляжаць роўныя куты.

ПРОТИВОЛЕЖАЩИЙ — супроцьлеглы.

ПРОТИВОПОЛОЖНО — супроцьлегла, супраціўна.

ПРОТИВОПОЛОЖНЫЙ (угол, сторона) — супроцьлеглы (кут, бок); противоположные теоремы — супраціўныя тэарэмы.

ПРОТИВОРЕЧИЕ — пярэчаньне; ..это противоречит условию — .. гэта пярэчыць варунку.

ПРОТИВОРЕЧИВЫЙ — пярэчлівы.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ — простая лінія; полупрямая (луч) — напоўпростая (прамень); прямая конечная — простая абмежаная; прямая безконечная — простая бязьмежная.

ПРЯМАЯ ПРИЗМА, ПИРАМИДА — простая прызма, піраміда.

ПРЯМАЯ ТЕОРЕМА — простая тэарэма.

ПРЯМОЛИНЕЙНЫЙ — прасталінейны; прямолинейная тригонометрия — прасталінейная трыганамэтрыя.

ПРЯМОУГОЛЬНИК — прастакутнік.

ПРЯМОЙ УГОЛ — просты кут. (Кожды з роўных сумежных кутоў завецца простым).

ПРЯМОУГОЛЬНЫЙ ТРЕУГОЛНИК — прастокутны трыкутнік.

ПРОТИВНЫЙ (в матем) — супроціўны; доказать способом от противнаго — давесьці спосабам ад супраціўнага.

## Р

РАВЕН — ровен; угол А равен углу В — кут А ровен куту В.

РАВЕНСТВО — роўнасьць; знак равенства — знак роўнасьці; равенство двух многоугольников — роўнасьць двох мнагакутнікаў. [Два трыкутнікі роўны: $1^0$, калі два бакі і кут, зьмешчаны паміж імі, аднаго трыкутніка адпаведна роўны двум бакам і куту, зьмешчанаму паміж імі другога трыкутніка; $2^0$, калі два куты і прылеглы да іх бок аднаго трыкутніка адпаведна роўны двум кутам і прылегламу к ім боку другога трыкутніка; або $3^0$, калі тры бакі аднаго трыкутніка адпаведна роўны тром бакам другога трыкутніка.]



РАВНОБЕДРЁННЫЙ — раўнабедры.

РАВНОВЕЛИКИЙ — раўнавялікі.

РАВНОВЕСИЕ — раўнавага.

РАВНОДЕЙСТВУЮЩАЯ — раўнадзейная.

РАВНОСТОРОНИЙ ТРЕУГОЛЬНИК — раўнабокі тр-к; равнобочная трапеция — раўнабочная трапэцыя.

РАВНООТСТОЯЩИЙ — раўнаадлеглы.

РАВНЫЙ — роўны.

РАВНЯЕТСЯ — ровен; площадь треугольника равняется половине произведения основания на высоту — плошча трыкутніка роўна палове монжыва асновы на вышыню.

РАДИКАЛ — радыкал (лац. radicalis — карнявы), знак радикала — знак радыкала.

РАДИАЛЬНЫЙ — радыяльны (лац. radialis — праменны); радиальное измерение — радыяльны памер.

РАДИАН — радыян.

РАДИУС — радыюс (лац. radius — прамень, шпіца у калясе), лучак; радиус-вектор — радыюс, лучак-вэктар. (Простыя, якія лучаць асяродак акружнасьці з пунктамі на гэтай акружнасьці завуцца радыюсамі або лучакамі).

РАДИУС ОПИСАННОЙ и ВПИСАННОЙ ОКРУЖНОСТИ — лучак (радыюс) абмежанай і ужежанай акружнасьці.

РАЗВЕРТКА КОНУСА — разварот конуса, кучмяня; развернутый цилиндр — разьвернуты кругляч; развертывать цилиндр — разьвертаць кругляч.

РАЗДЕЛЕНИЕ (на части) — падзел (на часьці).

РАЗДЕЛИТЬ — разьдзяліць.

РАЗДРОБЛЕНИЕ — раздрабненьне.

РАЗДРОБИТЬ—раздрабніць; раздробить метры в сантиметры — раздрабніць мэтры ў сантымэтры.

РАЗЛАГАТЬ,-ЖИТЬ — раскласьці; многоугольник разложить на треугольники. —многакутнік раскласьці на трыкутнікі.

РАЗЛИЧНЫЙ — разнаякі.

РАЗЛОЖИТЬ — раскласьці.

РАЗЛОЖЕНИЕ — расклад.

РАЗМЕЩЕНИЕ (в алг.) — адборка.

РАЗНИЦА (понятий или тел.) — рожніца (паняцьцяў або целаў); разница между тригонометрией и геометрией та, что... — рожніца паміж геамэтрыяй і трыганамэтрыяй тая, што...

РАЗНОСТНОЕ ОТНОШЕНИЕ, ПРОПОРЦИЯ — розьнічны тасунак, прапорцыя.

РАЗНОСТОРОННИЙ ТР-К. — разнабокі тр-к.

РАЗНОСТЬ (или остаток) — розьніца (або астача); при вычитании мы получили разность — пры адыманьні мы атрымалі розьніцу.



РАЗРЫВНОЙ — разрыўны; разрывная функция — разрыўная функцыя.

РАЗСТОЯНИЕ — адлегласьць (адлежнасьць); найти разстояние от точки А до прямой CD — знайсьці адлегласьць ад пункта А да простай CD; разстояние от точки А до точки В равно 10 метр. — адлегласьць ад пункта А да пункта В роўна 10 мэтрам; точки, находящиеся на равном разстоянии — пункты знаходзячыяся на роўнай адлегласьці (адлежнасьці).

РАЗСУЖДАТЬ — разважаць.

РАЗСУЖДЕНИЕ — развažаньне.

РАЗ'ЯСНЕНИЕ — тлумачаньне, разьясненьне.

РАСПОЛОЖИТЬ — распалажыць.

РАСПРЕДЕЛЕНИЕ — распадзел.

РАСПРЕДЕЛИТЬ — распадзяліць.

РАСПРОСТРАНЕНИЕ — пашырэньне.

РАЦИОНАЛЬНЫЙ — рацыянальны.

РЕБРО (в матем.) — кант; многогранник ограничен гранями, телесными углами и ребрами — мнагасьцен абмежан сьценамі, рагамі і кантамі.

РЕЗУЛЬТАТ — рэзультат (вынік); в результате решения задачи... — у рэзультаце разьвязаньня задачы...; что получили в результате — што атрымалі у рэзультаце; результатом всей ра-

боты было... — рэзультатам (вынікам) усей работы было...

РОМБ — ромб (грэцк. rhombos — назова рыбы, якая мае від чатыракутніка з косымі кутамі, дзяцінная цацка—ваўчок).

РЕШАТЬ (задачу) — разьвязваць (задачу).

РЕШЕНИЕ — разьвязаньне.

РЯД (в матем.) — сьцяг; естественный ряд чисел — прыродны сьцяг лічбаў.

## С

САЖЕНЬ — сажань; квадратная сажень — квадратны сажань; кубичная сажень — кубічны сажань.

САНТИМЕТР — сантымэтр (лац. centum — сто, грэцк. metron — мера).

СВОДИТЬСЯ — звадзіцца; решение сводится к... — разьвязаньне зводзіцца да...

СВОЙСТВО — ласьцівасьць, свомасьць; свойственный — ласьцівы, свомы (свомны).

СЕГМЕНТ — сэгмэнт (лац. segmentum — адрэз), зрэз; сегмент круговой — сэгмэнт (зрэз) кругавы; сегмент шаровой— сэгмэнт (зрэз) клубавы.

СЕКАНС — сэканс (лац. sekans — сякучы, разрэзаючы); линия секанса — лінія сэканса.

СЕКТОР КРУГОВОЙ, ШАРОВОЙ — сэктар (лац. sector — вырэз), вырэз кругавы, клубавы (або вырэз круга, вырэз клуба. [Тэарэма. Плошча вырэза (сэктара) роўна множыву яго дугавіны на палову лучака (радыюса)].



СЕКУЩАЯ — сякучая. [Калі з пункту, ўзятага зьне круга, праведзены да яго некалькі сякучых, то множыва кождай сякучай на яе зьнешнюю часьць ёсьць лічба сталая для ўсіх сякучых].

СЕКУЩАЯ — сякучая; внешняя часть секущей — зьнешняя часьць сякучай.

СЕКУНДА ДУГОВАЯ, УГЛОВАЯ — сэкунда (лац. secundus — сьледуючы, наступны) дугавая, кутавая.

СЕЧЕНИЕ (как действие) — сячэньне; (как фигура в геометрии) — сечыва; при сечении по диагонали получим в сечении... — пры сячэньні па касадзе атрымаем у сечыве....

СИММЕТРИЯ — сымэтрыя (грэцк. syn i metron — маючы тую-ж меру).

СИММЕТРИЧЕСКИЙ, -ЧНЫЙ — сымэтрычны; две плоскости симметричны относительно третьей — два пласмы сымэтрычны тасункова да трэцяга; симметрические фигуры — сымэтрычныя фігуры; центр, ось, плоскость симметрии — асяродак, вось, пласмо сымэтрыі.

СИНТЕЗ — сынтэз (грэцк. synthesis — састаўленьне, злучэньне).

СИНТЭТИЧЕСКИЙ — сынтэтычны; синтетический метод — сынтэтычная мэтода; решить задачу синтетическим способом — разьвязаць задачу сынтэтычным спосабам.

СИНУС — сінус; линя синуса — лінія сінуса.

СИНУСОИДА — сінусоіда.

СКОБКИ — скобкі; вынести множитель за скобки — вынясьці множнік за скобкі.

СКОРОСТЬ — скорасьць (борзкасьць).

СКРЕЩИВАТЬСЯ — крыжавацца; скрещеные прямыя — скрыжаваныя простыя; скрещивающияся — крыжуючыяся, скрыжаваныя.

СЛАГАЕМОЕ — складомы,-ая (складанка, складань?).

СЛЕДСТВИЕ — вынік.

СЛЕДУЮЩИЙ — наступны, чарговы, чародны сьледуючы.

СЛИВАТЬСЯ — зьлівацца, зьліцца; сольется — зьліецца.

СЛОЖЕНИЕ — складаньне; знак сложения — знак ськкладаньня.

СЛОЙ — пласт; шаровой слой — клубавы пласт.

СЛУЧАЙ — прыпадак (выпадак?); случаи равенства треугольников -- прыпадкі роўнасьці кр-каў.

СМЕЖНЫЙ — сумежны; смежные углы — сумежныя куты; угол ABC смежный с углом CBD — кут ABC сумежны з кутом CBD. [Тэар. Калі сума двох кутоў, маючых супольную вершадзь і супольны бок і не пакрываючых адзін другога, роўна двум простым, то такія куты-сумежныя, г. зн. два другіх бакі іх складаюць прадоўжаньне адзін другога].



СМЫСЛ — сэнс.

СНИМАТЬ ПЛАН (местности) — сплянаваць (мяйсцовасьць), (або зрабіць плян мяйсцовасьці).

СОВМЕСТИТЬСЯ — сумесьціцца.

СОВОКУПНОСТЬ — сумесцасьць; совокупность всех элементов — сумеснасьць усіх элемэнтаў.

СОВПАДАТЬ — саўпадаць, зьлівацца, пасаваць.

СОВПАДЕНИЕ — пасоўнасьць, зьлітнасьць; поворачиваем фигуру до полнаго совпадения с... — паварачываем фігуру да поўнай зьлітнасьці з...; наложим тр-к ABC на тр-к LMN так, чтобы точка A совпала с L — наложам тр-к ABC на тр-к LMN так, каб пункт A трапіў на L...

СОДЕРЖАТЬСЯ — зьмяшчацца; пусть прямая AB содержиться в прямой MN 3 раза — няхай простая AB зьмяшчаецца у прастой MN 3 разы.

СОЕДИНЕНИЯ (в алгеб.) — злучэньні; размещения — адборкі; перестановки — перастаўкі; сочетания — суклады.

СОЕДИНЯТЬ — лучыць, злучаць; соединяем точки А и В прямой — лучым пункты А і В простай; соединим оба центра прямой — злучым абодвы асяродкі простай.

СОИЗМЕРЕНИЕ, СОИЗМЕРИМЫЙ — сумер, сумерны (сызмер, сызмерны?); соизмеримые величины — сумерныя велічыны; соизмеримые отрезки — сумерныя адрэзы; соизмеримое отношение — сумерны тасунак. [Тэарэма. Калі ў раўнабедрым трыкутніку кут пры аснове ровен 2/5 d, то (бакавы) бок яго нясумерны (нясызмерны) з асновай].

СОМНОЖИТЕЛЬ — сумножнік.

СООТВЕТСТВОВАТЬ — адпавядаць.

СООТВЕТСТВЕННЫЙ — адпаведны; соответственные углы, стороны — адпаведныя куты, бакі; соответственные углы при параллельных прямых — адпаведныя куты пры раўналеглых простых.

СООТВЕТСТВИЕ — адпаведня.

СОСТАВ ТЕОРЕМЫ — склад тэарэмы.

СОСТАВИТЬ ТАБЛИЦУ — скласьці, (укласьці?) табліцу.

СОСТАВЛЯЕТ — складае; отрезок АВ составляет прямую часть отрезка АС — адрэз АВ складае простую часьць адрэза АС.

СОСТАВНОЙ — складзены, складны.



СОЧЕТАНИЕ (в матем.) — суклад.

СПОСОБ ПРЕДЕЛОВ — спосаб рубяжоў.

СРАВНИТЕЛЬНЫЙ — параўнальны; сравнительная длина — параўнальная даўжыня; сравнительная величина — параўнальная велічыня.

СРАВНЕНИЕ — параўнаньне.

СРЕДИНА — сярэдзіна.

СРЕДНЕЕ АРИФМЕТИЧЕСКОЕ, ГЕОМЕТРИЧЕСКОЕ — сярэдняе арытмэтычнае, геамэтрычнае.

СРЕДНЯЯ ЛИНИЯ ТР-КА, ТРАПЕЦИИ — сярэдняя лінія тр-ка трапэцыі (паяс).

СТЕПЕНЬ — ступень; основание, показатель степени — аснова (карэнь), пaказчык ступені; возвышать в степень — ступняваць (узвышаць у ступень); извлечение корня знаход караня (адступняваньне?); радикал — радыкал (ступняк?).

СТЕРЕОМЕТРИЯ — стэрэамэтрыя (геамэтрыя ў прасторы); (грэцк. sterros — цьведрая рэч, metreo — мераю).

СТЕРЕОМЕТРИЧЕСКАЯ ЗАДАЧА — стэрэамэтрычная задача.

СТОРОНА — бок, старана; сторона мн-ка, тр-ка — бок мн-ка, тр-ка; по ту и другую сторону — з тэй і другой стараны (абапал).

СТРЕМИТЬСЯ — імкнуцца; стремиться к нулю — імкнуцца да нуля.

СТРЕЛКА — стрэлка.

СУММА — зьлічво, сума (лац. summus — самы верхні. Рымляны, пры складаньні, пісалі суму не пад усімі лічбамі, а над лічбамі; слова сума знача „верхняя линейка страницы).

СФЕРИЧЕСКАЯ ПОВЕРХНОСТЬ ШАРОВОГО СЕГМЕНТА, СЕКТОРА, СЛОЯ — сфэрычная паверхня клубавога зрэза, вырэза, пласта (грэцк. sphaira — клуб).

СХОДСТВЕННАЯ СТОРОНА — аднародны бок. (Аднароднымі бакамі завуцца тыя бакі, каторыя прылягаюць да роўных кутоў).

СХОДСТВЕННО РАСПОЛОЖЕННЫЕ ФИГУРЫ — аднародна расположаныя фігуры.

СХОДСТВЕННЫЙ УГОЛ — аднародны кут.

## Т

ТАБЛИЦЫ ЛОГАРИФМОВ — табліцы лёгарытмаў.

ТАНГЕНС — тангенс; линия тангенса — лінія тангенса.

ТАНГЕНСОИДА — тангенсоіда.

ТЕОРЕМА ПРЯМАЯ, ОБРАТНАЯ, ПРОТИВОПОЛОЖНАЯ — тэарэма простая, адваротная, супраціўная (грэцк. theorema — разгляданае, дойдзенае шляхам разважаньня).

ТЕТРАЕДР — тэтраэдр (грэцк. tettares — чатыры), чатырасьцен.



ТОЖДЕСТВЕННЫЙ — тожсамы (тожсамны); эти две величины тождественны — гэты дзьве велічыны тожсамы (тожсамны).

ТОЛЩИНА — таўшчыня.

ТОЧКА — пункт.

ТОЧКА КАСАНІЯ — пункт дотыку.

ТОЧКА ПЕРЕСЕЧЕНИЯ ПРЯМЫХ, КРИВЫХ ОКРУЖНОСТЕЙ — пункт перасечы (перасеку) простых, крывых, акружнасьцяў.

ТОЧНОСТЬ — пунктуальнасьць, (точнасьць); вычислить с точностью до... — аблічыць з пунктуальнасьцю да...

ТОЧНЫЙ — пунктуальны, (точны).

ТРАНСПОРТИР — транспартыр (лац. transporto — перанашу).

ТРАНСЦЕНДЕНТНЫЙ — трансцэндэнтны (лац. transcendo — пераходжу).

ТРАПЕЦИЯ — трапэцыя (грэцк. trapedza — стол, дашка); нижнее и верхнее основание трапеции — ніжняя і верхняя аснова трапэцыі; боковая сторона трапеции — бок трапэцыі; средняя линия трапеции — сярэдняя лінія трапэцыі (паяс).

ТРЕГРАННЫЙ УГОЛ — трысьценны рог, кут; телесный угол — рог.

ТРЕУГОЛЬНИК — трыкутнік; прямоугольный тр-к — прастакутны тр-к; остроугольный — вастракутны; тупоугольный — тупакутны; равноугольный

— раўнакутны; р а з н о у г о л ь н ы й — рожнакутны; к о с о у г о л ь н ы й — касакутны; р а в н о б е д р е н н ы й — раўнабедры; р а в н о с т о р о н н и й — раўнабочны; р а з н о с т о р о н н и й — рожнабочны (або разнабочны).

ТРЕУГОЛЬНАЯ ПИРАМИДА — трысьценная (або трыкантовая) піраміда.

ТРЕХМЕРНЫЙ — трымерны.

ТРЕХЧЛЕН — трысклад.

ТРИГОНОМЕТРИЯ — трыганамэтрыя (грэцк. treis — тры; gonia — кут; metreo — мераю).

ТРИГОНОМЕТРИЧЕСКИЙ (способ, задача) — трыганамэтрычны (спосаб, задача).

ТРИГОНОМЕТРИЧЕСКАЯ ФУНКЦИЯ — трыганамэтрычная функцыя. [Трыганамэтрычная функцыя ёсьць дадатныя або ад'емныя лічбы, паказываючыя тасунак трыганамэтрычных ліній да лучака (радыюса) і іх просты або адваротны кірунак. Теарэма. Трыганамэтрычная функцыя данага кута не залежыць ад даўжыні радыюса (лучака)].

ТРОЙНОЙ, УТРОЕННЫЙ — патройны, патроены.

ТЕЛО ФИЗИЧЕСКОЕ, ГЕОМЕТРИЧЕСКОЕ — цела фізычнае, геамэтрычнае; т е л о в р а щ е н и я — цела авароту.

ТЕЛЕСНЫЙ (многогранный) УГОЛ — рог (мнагасьценны кут)...

ТО ЕСТЬ (т. е.) — гэта знача (г. зн.).



ТУПОЙ УГОЛ — тупы кут.

ТУПОУГОЛЬНЫЙ ТР К — тупакутны тр-к.

## У

УБЫВАНИЕ — убываньне.

УВЕЛИЧЕНИЕ — павялічаньне.

УВЕЛИЧИВАТЬСЯ — павялічывацца, павялічацца.

УВЕЛИЧИТЬСЯ — павялічыцца.

УГОЛ — кут, вугол, рог; л и н е й н ы й (п л о с к и й) у г о л — кут; д в у г р а н н ы й у г о л — вугол; м н о г о г р а н н ы й у г о л (т е л е с н ы й) — рог (мнагасьценны кут, рог).

[Калі дзьве напоўпростыя выходзяць з аднаго пункту, то фігура, створаная гэтымі напоўпростымі разам з часьцю пласма, абмежанага імі, завецца кутом. Два куты лічацца роўнымі, калі пры накладзе яны могуць сумесьціцца.

Два напоўпласмы выходзячыя з аднае напоўпростай, разам з часьцю прастору, абмежанага імі твораць (двусьценны) вугол.

Тэарэма. $1^0$. Роўным (двусьценным) вуглам адпавядаюць роўныя куты, $2^0$. Большаму вуглу адпавядае большы кут. Тэарэма. Вуглы тасуюцца як іх куты. Тэарэма. У выпуклым мнагасьценным рагу сума кутоў менш 4 d.].

Увага. Можна ужываць і гэткім чынам; п л о с к и й у г о л — кут, плоскі кут; д в у г р а н н ы й у г о л — двусьценны кут; т е л е с н ы й, м н о г о-

гранный угол — мнагасьценны кут.

УГОЛ ПРИ ОСНОВАНИИ, ПРИ СТОРОНЕ, МЕЖДУ ДВУХ СТОРОН — кут пры аснове, пры баку, паміж двох бакоў.

УГОЛ ПРЯМОЙ, ТУПОЙ, ОСТРЫЙ КОСОЙ — кут, вугол, рог просты, тупы, востры, косы (укосны).

УДАЛЯТЬСЯ — аддаляцца.

УДВОЕНИЕ — падвоеньне; формула удвоения — формула падваеньня.

УДВОЕННЫЙ — падвоены; двойной — падвойны.

УДВОИТЬ ЧИСЛО СТОРОН — падвоіць лік бакоў; удвоиться — падвоіцца; удвоившийся — падвоены.

УКАЗАНИЕ — паказ.

УКАЗАТЕЛЬ — паказчык.

УМЕНЬШАТЬ —зьмяншаць.

УПРАЖНЕНИЕ — навытар; примеры для упражнения — прыклады для навытару; упражняться — навытарацца.

УПРОСТИТЬ — спросьціць.

УПРОЩЕНИЕ — спрошчаньне.

УРАВНЕНИЕ — раўнаваньне; ур-іе первой степени, квадратное, кубичное, биквадратное — раўн-е першай ступені, квадратнае, кубічнае, біквадратнае; ур-іе неопределенное — роўн-е неазначанае; ур-іе с 2 неизвестными — раўн-е з 2 няведамымі.



УСКОРЕНИЕ — прысьпех.

УСЛОВИЕ — умова, варунак.

УСЛОВИЕ ЗАДАЧИ, ТЕОРЕМЫ — варунак задачы, тэарэмы.

УСЕЧЕННАЯ ПИРАМИДА — урэзаная піраміда, (уцятая?).

УТРОИТЬ — патроіць (троміць?).

УТРОЕННЫЙ, УТРОИВШИЙСЯ — патроены, утроены (утромлены?); тройной - патройны.

УЧЕТВЕРЕНИЕ — чатыромленьне?; упятерение — пяцёмленьне; ушестерение — шасьцёмленьне... Учетверить, упятерить, ушестерить... — чатыроміць, пяцёміць, шасьцёміць(?)....

УЧЕТВЕРЕННЫЙ, УПЯТЕРЕННЫЙ, УШЕСТЕРЕННЫЙ.. — счатыромлены, спяцёмлены, сшасьцёмлены (?), або пачвораны, папяцераны, пашэсьцераны..; четырехкратный—пачворны.



ФИГУРА (геометрическая) — фігура (гэамэтрычная) (лац. figura — зьнешні від).

ФОРМА — форма (лац. forma — знадворны від).

ФОРМУЛА — формула (лац. formula — маленькая форма); формулы приведения — формулы зьвядзеньня (сызводу?). [Трыганмэтрычныя функцыі кутоў большых простага лёгка зводзяцца к функцыям вострага кута].

ФУНКЦИОНАЛЬНЫЙ — функцыянальны (лац. funktio — дзейны); функциональная зависимость — функцыянальная залежнасьць (дзейная залежнасьць?).

ФУНКЦИЯ — функцыя (лац. funktio — дзейны); алгебраическая, тригонометрическая трансцендентная функция — альгебрычная, трыганамэтрычная, трансцэндэнтная функцыя; явная, неявная, разрывная, неразрывная, производная функция — яўная, няяўная, разрыўная, неразрыўная, вывадная функцыя. [Зьменная (пераменная) велічыня, вартасьці каторай адпавядаюць вартасьцям другой зьменнай велічыні, завецца яе функцыяй. Тая велічыня, ў залежнасьці ад каторай зьмяняецца функцыя, завецца аргумэнтам функцыі].

## Х

ХОРДА — хорда (грэцк. chorde — струна) цяціва; хорда стягивающая дугу — хорда (цяціва) сьцягваючая дугавіну; дуга стягиваемая хордой — дугавіна сьцяганая хордай, цяцівой [або дугавіна якую сьцягвае хорда, (цяціва)]. [Тэарэмы. $1^0$. Дыямэтр, прастападны к хордзе дзеліць гэту хорду і абедзьве сьцяганыя ёю дугавіны папалам, $2^0$. Дугавіны, зьмешчаныя паміж раўналеглымі хордамі, роўны].



## Ц

ЦЕНТР — цэнтр (грэцк. kentron — сярэдзіна), асяродак; центр тяжести — асяродак, цэнтр цяжару; центр круга — асяродак цэнтр круга.

ЦЕНТРОБЕЖНЫЙ — адцэнтравы.

ЦЕНТРОСТРЕМИТЕЛЬНЫЙ — дацэнтравы.

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ — асяродкавы (цэнтральны).

ЦИЛИНДР — кругляч, цыліндр (грэцк. kylindros — вал, круглае бярно); ось цилиндра — вось кругляча; развертка цилиндра — разварот кругляча]. [Сечыва простага кругавога кругляча (цыліндра) пласмом, раўналегла аснове, есьць круг].

ЦИЛИНДРИЧЕСКИЙ — круглявы, цііндрычны; цилиндрическая поверхность — кругляная, цыліндрычная паверхня. [Цыліндрычнай (круглянай) паверхняй зав. паверхня, створаная рухам простай (AB), каторая перамяшчаецца ў прасторы раўналегла дадзенаму кірунку і перасекае пры гэтым дадзеную лінію (MN). Простая AB зав. творачаю, а лінія MN — кіруючаю].

ЦИРКУЛЬ — цыркель (лац. circum — кругом).

## Ч

ЧАСТНОЕ (как результат деления) — дзель.

ЧАСТНЫЙ (в мат) — асаблівы; частный случай — асаблівы прыпадак; частное решение — асабліваe разьвязаньне.

ЧЕРТА (в смысле линии) — рыса.

ЧЕРТЕЖ — рысунак.

ЧЕРТИТЬ — рысаваць.

ЧЕТВЕРНОЙ (учетверенный) -- пачворны.

ЧЕТНЫЙ — парны (цотны); чет — цотка (пара).

ЧЕТЫРЕ ЗАМЕЧАТЕЛЬНЫЕ ТОЧКИ — чатыры асаблівых пункты.

ЧЕТЫРЕУГОЛЬНЫЙ — чатыракутны.

ЧИСЛОВОЙ — лічбовы; числовой пример — лічбовы прыклад; числовая зависимость между... — лічбовая залежнасьць паміж....

ЧИСЛО — лік, лічба; удвоить число сторон многоугольника — падвоіць лік бакоў мнагакутніка; напишем число 175 — напішам лічбу 175.

ЧЛЕН (в многочл.) — склад.

## Ш

ШАР — клуб. [Цела створанае аваротам паўкруга кругом дыямэтра, абмежываючага яго, завецца клубам а паверхня, створаная пры гэтым поўакружнасьцю, завецца клубавою або сфэрычнаю паверхняй. Тэарэма: Усякае сечыва клуба пласмом ёсьць круг].

ШАРОВОЙ клубавы; шаровой сегмэнт, сектор, слой — клубавы зрэз (сэгмэнт), вырэз (сэктар), пласт; шаровая поверхность — клубавая паверхня.

ШИРИНА — шырыня.

## Э

ЭЛЕМЕНТ — элемэнт.

ЭЛЛИПС — эліпс.

ЭЛЛИПСОИД — эліпсоід; эллипсоид вращения — эліпсоід авароту.

ЭЛЛИПТИЧЕСКИЙ — эліптычны.

## Я

ЯВЛЕНИЕ — зьявішча.

# БЕЛАРУСКА - РАСІЙСКАЯ ЧАСЬЦЬ.

(Націск абазначаны чорным шрыфтам).

## А

АБАГУЛЬНЕНЬНЕ, УАГУЛЬНЕНЬНЕ — обобщение.
АБАГУЛЬНЯЦЬ, УАГУЛЬНЯЦЬ — обобщать.
АБАВЯЗКОВЫ І ЗДАВАЛЯЮЧЫ ВАРУНАК — необходимое и достаточное условие.
АБАЗНАЧЫЦЬ — обозначить; абазначаньне — обозначение.
АБАПАЛ — по обе стороны; абапал простой АВ ляжаць пункты... — по обе стороны от прямой АВ лежат точки, (можна:.. з абедзьвех старон); з абедзьвех старон ад простай можна правясьці... — по обе стороны от прямой можно провести... — (З усялякага пункту, простай, абапал ад яе, можна падняць прастапад і пры тым толькі адзін).
АБАПЕРТЫ — опирающийся; умежаны кут абапёрты на дыямэтр, ёсьць просты — вписанный угол опирающийся на диаметр, есть прямой.

АБЕРТАЦЦА (ў нуль) — обращаться (в нуль).

АБЛІЧЭНЬНЕ — вычисление; задачы на аблічэньне — задачи на вычисление.

АБМЕЖАНЫ — ограниченный.

АБМЕЖАНЫ — конечный, вписанный; абмежаны тр-к, мн-к — вписанный тр-к, мн-к; абмежаная простая — конечная прямая [Тэарэма. Каля ўсякага трыкутніка можна абмежыць акружнасьць і пры тым толькі адну].

АБМЕР — измерение (как действие); абмерыць абыймо — измерить об'ем.

АБНЯТАЯ — об'емлемая.

АБСАЛЮТНЫ — абсолютный (лат. absolvo — отделяю, освобождаю, оканчиваю; отсюда absolutus — независимый от чего нибудь; абсолютная величина — независимая от других данных); абсалютная даўжыня адрэза — абсолютная длина отрезка; абсалютная вартасьць велічыні — абсолютное значение величины.

АБСУРД — абсурд (лат. absurdus — плохо звучащий, несоответствующий, безсмысленный, негодный, неспособный, неловкий), нелепость; зьвядзеньне да абсурда (недарэчнасьці) — приведение к абсурду (нелепости),

АБЫМАЮЧАЯ — об'емлющая. [Выпуклая лінія карацей усякай абымаючай яе лініі].

АБЫЙМО — об'ем; мера абыйма — мера об'ема. [Роўныя целы, г. зн. каторыя сумяшчаюцца пры ўкладаньні маюць роўныя абыймы, незалежна ад іх паложэньня ў прасторы].



АВАРАЧЫВАЦЦА (кружыцца?) — вращаться.

АВАРОТ (кружэньне?) — вращение; вось авароту (кружэньня) — ось вращения; паверхня авароту (кружэньня) — поверхность вращения; творачая (творніца, амашная?) — образующая; кіруючая — направляющая; [Паверхняй авароту (кружэньня) зав. такая паверхня, каторая атрымліваецца ад авароту якой-небудзь нязьменнай лініі, званай творачаю, кругом нярухомай простай, званай восьсю; пры гэтым дапушчаецца, што творачая, пры сваім авароце, нязьменна зьвязана з восьсю].

АГУЛЬНАЯ МЕРА — общая мера.

АГУЛЬНЫ — общий; агульнае паняцьце — общее понятие.

АДБОРКІ (у алг.) — размещения.

АДВАЛОЧНЫ (адарваны?) — отвлеченный.

АДВАРОТНЫ — обратный; адваротная тэарэма — обратная теорема.

АДВОЛЬНЫ (?) (ДАВОЛЬНЫ!) — произвольный.

АДДАЛЯЦЦА — удаляться.

АДЗІНКА — единица; адзінка даўжыні, плошчы абыйма — единица длины, площади об'ема.

АДЗНАЧЫЦЬ (кут, адрэз) — отметить (угол, отрезок).

АДЛАЖЫЦЬ АДРЭЗ — отложить отрезок.

АДЛЕГЛАСЬЦЬ (адлежнасьць?) — разстояние; знайсьці адлегласьць ад пункта А да простай CD — найти разстояние от точки А до прямой CD; пункты знаходзячыяся на роўнай (аднолькавай) адлегласьці — точки находящиеся на равном (одинаковом) разстоянии.

АДНАЙМЕННЫ — одноименный.

АДНАМЕРНЫ — одномерный.

АДНАРОДНА РАСПАЛОЖАНЫЯ ФІГУРЫ — сходственно расположенные фигуры.

АДНАРОДНЫ — однородный сходственный; аднародны мнагасклад — однородный многочлен.

АДНАРОДНЫ БОК — сходственная сторона. (Аднароднымі бакамі завуцца тыя бакі, каторыя прылягаюць да роўных кутоў).

АДНАРОДНЫ КУТ — сходственный угол.

АДНАСКЛАД — одночлен.

АДНАСКЛАДНЫ — одночленный.

АДНАСТАРОННЫЯ КУТЫ (зьнешнія, унутраныя) — односторонние углы (внешние внутрение).

АДНОЛЬКАВА — одинаково; геамэтрычнае мейсца пунктаў аднолькава адлеглых ад бакоў кута, ёсьць раўнадзелячая гэтага кута — геометрическое место точек одинаково удаленных от сторон угла есть биссекрисса этого угла.



АДНОСІНЫ? (ТАСУНАК!) — отношение (лат. re-latio — от-ношу).

АДПАВЕДАЦЬ — соответствовать.

АДПАВЕДНЫ — соответственный; адпаведныя куты пры раўналеглых простых — соответственные углы при параллельных прямых.

АДПАВЕДНЯ — соответствие.

АДРЭЗ ПРОСТАЙ — отрезок прямой.

АДСТУПНЯВАЦЬ? (знайсьці карэнь) — извлечь корень.

АД'ЕМНЫ — отрицательный; ад'ёмная лічба — отрицательное число; ад'емны кірунак — отрицательное направление.

АДЦЭНТРАВЫ — центробежный.

АЗНАКА — признак, примета; азнака (прымета) роўнасьці, падобнасьці тр-каў — признак равенства, подобия тр-ков; азнакі падзельнасьці — признаки делимости.

АЗНАЧАНЫ АКРЭСЛЕНЫ — определенный; азначанае раўнаваньне — определенное уравнение; азначанае разьвязаньне — определенное решение.

АЗНАЧАНЬНЕ, АКРЭСЬЛЕНЬНЕ — определение; азначыць данае паняцьце — определить данное понятие.

АКРУЖНАСЬЦЬ — окружность; правясьці акружнасьць праз тры пункты — провести окружность через три точки; умежыць акружнасьць у трыкутнік — вписать окружность в треугольник; абмежыць акружнасьць каля квадрата — описать окружность около квадрата. [Простая і акружнасьць ня могуць мець больш двох супольных пунктаў].

АКСЫОМА — аксиома (греч. axioma, axiosis — уважение, требование, мнение, постановление принятое общественностью).

АЛЬГЭБРА — алгебра (арабское слово означающее: дополнение, перевод, соединение, упрощение).

АЛЬГЭБРЫЧНЫ — алгебраический; разьвязаць задачу альгэбрычным спосабам — решить задачу алгебраическим способом; альгэбрычная формула — алгебраическая формула; датасоўка альгэбры да геамэтрыі — приложение алгебры к геометрии.

АНАЛІЗ — анализ (греч. analyo — растворяю, разлагаю, распускаю, об'ясняю, развиваю, изменяю; analysis — разложение.)

АНАЛІТЫЧНАЯ ГЕАМЭТРЫЯ — аналитическая геометрия.

АНАЛІТЫЧНЫ — аналитический; аналітычная мэтода — аналитический метод; разьвязаць задачу аналітычнай мэтодай — решить задачу аналитическим методом.



АПІРАЦЦА — опираться; кут ABC апіраецца на дугавіну АрС — угол ABC опирается на дугу АрС.

АПУСЬЦІЦЬ — опустить; з пункта А апусьціць прастапад на дануя простую — из точки А опустить перпендикуляр на данную прямую.

АПОТЭМА — апофема; апотэма (лучак умежанага круга) правільнага мнагакутніка — апофема правильнаго многоугольника; апотэма (бакавая вышыня) пірамідыы — апофема пирамиды.

АРЫТМЭТЫКА — арифметика (греч. arithmos — число, куча, мера, счисление, перечисление).

АРЫТМЭТЫЧНЫ — арифметический; арытмэтычная вартасьць велічыні — арифметическое значение величины; арытмэтычны тасунак, прапорцыя — арифметическое отношение, пропорция.

АСАБЛІВЫ ПРЫПАДАК — частный случай.

АСАБЛІВЫЯ ПУНКТЫ ТРЫКУТНІКА — замечательные точки треугольника.

АСВАБАДЗІЦЬ ВЫРАЖЭНЬНЕ АД ЧАСТАК, РАДЫКАЛАЎ — освободить выражение от дробей, радикалов.

АСНАЎНЫ — основной; асновываць, асноўваць — основывать.

АСНОВА (т р - к а, т р а п э ц ы і, п і р а м і д ы) — основание (тр-ка трапеции, пирамиды); а с н о в а (к а р э н ь) л ё г а р ы т м а, с т у п е н і — основание логарифма, степени.

АСТАЧА — остаток.

АСТРАЛЯБІЯ — астралябия (греч. astron — звезда).

АСЯРОДАК, ЦЭНТР — центр; а с я р о д а к ц я ж а р у — центр тяжести; а с я р о д а к к р у г а — центр круга.

АСЯРОДКАВЫ, ЦЭНТРАЛЬНЫ — центральный.

АЧАВІСТА — очевидно.

## Б

БАЗІС — базис (греч. basis — подошва, основа, подножник), астоя.

БАКАВАЯ ПАВЕРХНЯ — боковая поверхность.

БАКАВЫ — боковой; б а к а в ы я с ь ц е н ы — боковые грани; б а к а в ы я к а н т ы — боковые ребра.

БЕЗПЕРАРЫУНЫ — непрерывный; б е з п е р а р ы ў н ы с ь ц я г л і ч б а ў — непрерывный ряд чисел; б е з п е р а р ы ў н а я і р а з р ы ў н а я ф у н к ц ы я — непрерывная и разрывная функция; б е з п е р а р ы ў н а я п р а п о р ц ы я, ч а с т к а — непрерывная пропорция, дробь.

БІСЭКТРЫСА (р а ў н а д з е л я ч а я) — биссекрисса — (лат. bis — дважды, на двое; sector — делящий, разрезывающий).



БОК — сторона, бок; б о к к у т а, т р ы к у т н і к а, м н а г а к у т н і к а — сторона угла, треугольника, многоугольника; б о к т р а п э ц ы і — бок трапеции.

БОЛЬШЫ (в я л і к ш ы) — больший.

БРУСОК (д р у ч о к) — брусок.

БЯЗРУБЕЖНЫ — безпредельный.

БЯЗЬМЕЖНАСЬЦЬ — безконечность; б я з ь м е ж н ы л і к, б а з ь м е ж н а в я л і к і л і к (с к о л ь к а с ь ц ь) — безконечно большое количество; п у н к т п е р а с е ч ы а д д а л я е ц ц а у б я з ь м е ж н а с ь ц ь — точка пересечения удаляется в безконечность; д з ь в е р а ў н а л е г л ы я п р о с т ы я п е р а с я к а ю ц ц а у б я з ь м е ж н а а д д а л е н ы м п у н к ц е — две параллельные прямые пересекаются в безконечно удаленной точке; п а д в о й в а ц ь б я з ь м е ж н а, п а д в о й в а ц ь д а б я з ь м е ж н а с ь ц і — удваивать до безконечности.

БЯЗЬМЕЖНЫ — безграничный, безконечный; а н а л и з б я з ь м е ж н а м а л ы х — анализ безконечно малых.

БЯЗЬМЕЖНЫ, НЕАБМЕЖАНЫ — неограниченный.

## В

ВАГА — вес; м е р а в а г і — мера веса.

ВАРТАСЬЦЬ (л і ч б о в а я) — значение (численное).

ВАРУНАК ЗАДАЧЫ, ТЭАРЭМЫ — условие задачи, теоремы.

ВАСЕВЫ — осевой; васёвае сечыва, сячэньне — осевое сечение (гл. сл. сечение).

ВЕЛІЧЫНЯ — величина; вартасьць, разьмер велічыні — значение, размер величины.

ВЕРШАДЗЬ — вершина

ВЕХА — веха; правехаваць лінію — провешить линию.

ВІД — вид; зьвядзеньне к віду — приведение к виду; па зьнешнему выгляду — по внешнему виду.

ВІНКЕЛЬ — наугольник.

ВОСТРЫ КУТ — острый угол; вастракутны трыкутнік — остроугольный треугольник.

ВОСЬ — ось; вось авароту (кружэньня?) — ось вращения.

ВУГОЛ — двугранный угол. (Гл. сл. угол). [Два напоўпласмы выходзячыя з аднае напоўпростай, разам з часьцю прастора, абмежанага імі, творацць (двусьценны) вугол. Тэарэмы. 1°. Роўным (двусьценным) вуглам адпавядаюць роўныя куты. 2°. Большаму вуглу адпавядае большы кут. Тэарэма. Вуглы тасуюцца, як іх куты].

ВУГОЛ (гл. сл. угол) ПРОСТЫ, ТУПЫ, ВОСТРЫ — двуграннный угол прямой, тупой, острый.



ВЫАБРАЖАЛЬНЫ — мнимый; выабражальны карэнь — мнимый корень; істотны карэнь — вещественный корень.

ВЫАБРАЖАЦЬ — изображать воображать; на рысунку выабражана — на рисунке (чертеже) изображено.

ВЫАБРАЖЭНЬНЕ — изображение, воображение.

ВЫВАДНЫ — производный; вывадная прапорцыя — производная рропорция (гл. сл. произвести).

ВЫВЯСЬЦІ — произвести; вывясьці адну велічыню з другой — произвести одну величину из другой (гл. сл. произвести).

ВЫГЛЯД — вид; па зьнешнему выгляду — по внешному виду; зьвядзеньне к віду — приведение к виду.

ВЫМЕР, СЫЗМЕР, АБМЕР, ПАМЕР — измерение (как действие); вымерыць у доўжкіі ўпоперак — измерить вдоль и поперек.

ВЫНІК — следствие.

ВЫПАДАК? ПРЫПАДАК! — случай.

ВЫПУКЛАЯ ЛІНІЯ — выпуклая линия.

ВЫРАЖАЦЬ — выражать; выражэньне — выражение.

ВЫШЫНЯ (тр-ка, пірамідьі) — высота (тр-ка пирамиды); вышыня (як велічыня) — вышина; 3 мэтры ў вышкі — вышиною 3 метра.

ВЭКТАР — вектор (лат. vector — носитель, несущий на себе).

ВЯЛІКШЫ (бо льшы) — большій.
ВЯРХНІНА? (павер хня!) — поверхность.

# Г

ГАЛОЎНЫ — главный.
ГАРМОНІЧНЫ -- гармонический (греч. harmonia — созвучие, согласованность).
ГЕАМЭТРЫЧНАЕ МЕЙСЦА ПУНКТАЎ — геометрическое место точек; геам. м. п. раўнаадлеглых ад А і В. — геом. м. т. равноудаленных от А. і В.
ГЕАМЕТРЫЧНАЯ ЗАДАЧА НА АБЛІЧЭНЬНЕ, НА ПАБУДОВУ — геометрическая задача на вычисление, на построение; геамэтрычная тэарэма — геометрическая теорема.
ГЕАМЭТРЫЧНЫ ТАСУНАК, ПРАПОРЦЫЯ — геометрическое отношение, пропорция.
ГЕАМЭТРЫЯ — геометрия (geo — земля; metron мера); геамэтрычныя асновы — геометрические положения; аналітычная геамэтрыя — аналитическая геометрия.
ГІПОТЭНУЗА (укосьніца) — гипотенуза (искуств. греческ. слово).
ГІПЭРБАЛА — гипербола (hyperbole — швыряние диска за цель, преувеличение, выхождение за пределы, стремление в неизвестную даль); гіпэрбалічны — гиперболический.
ГІПЭРБАЛОІД — гипербалоид.



ГОРЫЗОНТНЫ, ПАЗЕМЫ — горизонтальный (греч. horidzo — ограничиваю, отсюда: горизонтальная линия это та которая „ограничивает“ наш горизонт)
ГРАДУС (дугавы, кутавы) — градус (лат. gradus — шаг, постановка, размер) дуговой, угловой.
ГЭТА ЗНАЧА (г. з н.) — то есть (т. е.).
ГЭТАКІМ ЧЫНАМ, ТАКІМ ЧЫНАМ, ІТАК — итак, таким образам.

# Д

ДАВОДЗІЦЬ — доказывать; давядзіце спосабам аблічэньня — докажите по способу вычисления.
ДАВОЛЬНА (адвольна?) — произвольно.
ДАВОЛЬНЫ (адвольны?) — произвольный, любой.
ДАДАТАК — приложение (Гл. сл. приложение).
ДАДАТНЫ (у матэм) — положительный; дадатная лічба, кірунак — положительное число, направление; прадоўжыць адрэз у дадатным кірунку — продолжить отрезок в положительном направлении.
ДАНЫ, ДАДЗЕНЫ — данный
ДАПАЎНІЦЕЛЬНЫ КУТ — дополнительный угол. [У дапаўніцельных кутох функцыі аднаго ку-

та адпаведна роўны сходным (па назове) функцыям другога].

ДАСЬЛЕДАВАНЬНЕ — изследование; дасьледчык — изследователь; дасьледаваць —изследовать.

ДАТЫКАЦЦА — касаться; простая датыкаецца акружнасьці — прямая касается окружности; гэта мяне не датыча — это меня не касается.

ДАТЫЧНАЯ — касательная. [Тэарэма. Калі простая простападна к лучаку (радыюсу) ў канцы яго, ляжачым на акружнасьці, то яна ёсьць датычная. Тэар. Датычная раўналеглая хордзе, дзеліць у пункце дотыку дугавіну, сьцягваную хордай, папалам. Тэарэма. Пласмо прастападнае к лучаку (радыюсу) у канцы яго ляжачым на паверхні клуба, ёсьць датычнае].

ДАТАСОЎКА — приложение (гл. сл. приложение); датасоўка альгэбры да геамэтрыі — приложение алгебры к геометрии.

ДАЎЖЫНЯ — длина.

ДАЦЭНТРАВЫ — центростремительный.

ДВУМЕРНЫ — двумерный.

ДВУСКЛАД, БІНОМ — двучлен.

ДВУСКЛАДНЫ, БІНОМНЫ — двучленный.

ДВУЗНАЧНЫ — двузначный.

ДЗЕЛЬНЫ — делимое.



ДЗЕЛЬНІК — делитель.

ДЗЕЛЬ — частное (результат деления).

ДЗЕЛЯ — из-за; дзеля таго, дзеля гэтага — вследствие того, из-за того.

ДЗЕСЯТКОВАЯ ЧАСТКА (дроб, дробязь?) — десятичная дробь.

ДЗЯЛЕНЬНЕ — деление; раздзяліць у сярэднім і канцавым тасунку — разделить в среднем и крайнем отношении; разьдзяліць на прапарцыянальныя часьці — разделить на пропорциональные части.

ДЛЯ — для; дзеля — из-за.

ДОВАД — доказательство; довад спосабам накладаньня, прыкладаньня, ад супраціўнага — доказательство по способу наложения, приложения, от противнаго. [Тэарэма. Ва ўсякім прастакутніку касоды роўны. Довад. Хай ABCD (рыс. 84-а) ёсьць прастакутнік, а AC і BD яго касоды; трэба давесьці, што AC = CD. Прастакутныя трыкутнікі ACD і ABD роўны, таму што ў іх: AD супольны катэт і AB = CD (як супроцьлеглыя бакі раўналеглабочніка паралелаграма). З роўнасьці тр-каў вынікае: AC = BD].

ДОСЬЛЕД — опыт.

ДОТЫК — касание; пункт дотыку — точка касания; разьдзел аб дотыку (акружнасьцяў з простай, акружнасьцяў паміж сабой) — отдел о

касании (окружностей с прямой, окружностей между собой).

ДУГАВІНА — дуга (в геом.).

ДЫЯГРАМА — диаграмма.

ДЫСК, КРУЖАК — диск (греч. diskos — круглая пластинка); кружаковы — дисковый.

ДЫЯГАНАЛЬ, КАСАДА — диагональ (греч. dia — через; gonia — угол); перасеча касадаў — пересечение диагоналей.

ДЫЯМЭТР (пяроkруг, перакруг?) — диаметр (греч. dia — через; metron — мера). Усякі дыямэтр дзеліць акружнасьць і круг напапалам).

ДЫЯМЭТРАЛЬНЫ — диаметральный.

## З

З АБЕДЗЬВЕХ СТАРОН (абапал) — по обе стороны (гл. сл. абапал).

ЗАДАЧА — задача; варунак, зьмест задачы — условие, содержание задачи; разьвязаць задачу — решить задачу; лічбовыя даныя задачы — числовые данные задачи.

ЗАДАЧА ГЕАМЭТРЫЧНАЯ, ТРЫГАНАМЭТРЫЧНАЯ — задача геометрическая, тригонометрическая.

З АДНЭЙ СТАРАНЫ (аднапал?) — по одну сторону.

ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ ТЭАРЭМЫ — заключение теоремы.



ЗАЛЕЖНАСЬЦЬ — зависимость; залежнасьць велічыні бакоў тр-ка ад кутоў — зависимость величины сторон тр-ка от углов.

ЗАЛЕЖЫЦЬ — зависеть; велічыня паверхні клуба залежыць ад велічыні яго лучака (радыюса) — величина поверхности шара зависит от величины его радиуса.

ЗАМКНУТЫ МН-К — замкнутый мн-к.

ЗАПРАЎДНЫ — действительный.

ЗАПРАЎДЫ — действительно.

ЗАЦЯМІЦЬ — заметить, запомнить; зацяміўшы гэту ласьцівасьць, пяройдзем да далейшага разгляду — заметив это свойство перейдем к дальнейшему разсмотрению.

ЗБУЙНЕНЬНЕ (у мат.) — превращение.

ЗБУЙНЯЦЬ (сантымэтры у мэтры) — превращать (сантиметры в метры).

ЗВАРОТНЫ — обратимый; зваротныя формулы, выражэньні, сказы — обратимые формулы, выражения, предложения.

ЗЕМЛЯМЕРНІЦТВА — землемерие.

ЗВАДЗІЦЦА — сводиться; разьвязаньне зводзіцца да — решение сводится к...

ЗЛУЧАЦЬ, ЛУЧЫЦЬ — соединять; злучым абодвы асяродкі простаю — соединим оба центра прямой.

ЗЛУЧЭНЬНІ (у мат.) — соединения; адборкі — размещения; перастаўкі — перестановки; сукла̣ды — сочетания.

ЗНАЙСЬЦІ КАРЭНЬ (адступняваць?) — извлечь корень; знайсьці карэнь 5-ай ступені — извлечь корень 5-ой степени.

ЗНАЧЫЦЬ, ЗНАЧА — означать, означает.

ЗНАХОД — нахождение; для знаходу плошчы тр-ка — для нахождения площади тр-ка.

ЗНАХОД КАРАНЯ — извлечения корня; паказчык караня — показатель корня.

З ТЭЙ І ДРУГОЙ СТАРАНЫ — по ту и другую сторону.

ЗЬВЯДЗЕНЬНЕ — приведение; формулы зьвядзеньня — формулы приведения; зьвясьці к віду (надаць від) — привести к виду.

ЗЬЛІВАЦЦА, ЗЛІЦЦА — сливаться; зьліецца — сольется.

ЗЬЛІТНАСЬЦЬ — слитность, совпадение. (Гл. сл. совпадение),

ЗЬНЕ — вне.

ЗЬНЕШНІ — внешний; зьнешні кут тр-ка, мн-ка — внешний угол тр-ка, мн-ка.

ЗЬМЕНА — изменение, перемена.

ЗЬМЕННЫ — переменный.

ЗЬМЯШЧАЦЦА — содержаться; няхай простая АВ зьмяшчаецца ў простай MN 3 разы — пусть прямая АВ содержится в прямой MN 3 раза.



ЗЬМЯНШАЦЬ — уменьшать.

ЗЬЯВІШЧА — явление.

## І

І Г. Д. — и т. д.

ІМЕННАЯ (мерная? мяноўная) ЛІЧБА — именованное число.

ІМКНУЦЦА — стремиться; велічыня імкнецца к нулю — величина стремится к нулю.

ІРРАЦЫЯНАЛЬНЫ — иррациональный (лат. irrationalis — неразумный, не поддающийся разумному определению, выходящий за пределы разума).

ІСТОТНЫ КАРЭНЬ — вещественный корень.

ІТАК, ТАКІМ ЧЫНАМ, ГЭТАКІМ ЧЫНАМ — итак, таким образом.

## К

КАТЭТ, РАМО — катет (искуственное греческое слово). [У прастакутным, раўнабедрым трыкутніку рамы (катэты) роўны паміж сабой. Катэт ровен укосьніцы (гіпотэнузе), памножанай на сінус супроцьлеглага кута або на косінус прылеглага. Катэт ровен другому катэту, памножанаму на тангенс, супроцьлеглага першаму катэту, або на котангенс кута, прылеглага к першаму катэту].

КАНТ — ребро; мнагасьцен абмежан сьценамі, рагамі і кантамі — многогранник ограничен гранями, телесными углами и ребрами.

КАРЭНЬ (у мат.) — корень; паказчык караня — показатель корня; падкарнявая (падкарэнная) колькасьць — подкоренное количество; вывясьці множік з-пад знаку радыкала — вывести множитель из под знака радикала; мейсца пад каранём — место под корнем; выабражальны карэнь — мнимый корень; істотны карэнь — вещественный корень.

КАСАДА, ДЫЯГНАЛЬ — диагональ.

КВАДРАНТ — квадрант (греч. — делящий на четыре части).

КВАДРАТ — квадрат (греч. — четыреугольник).

КВАДРАТНЫ КАРЭНЬ, МЭТР — квадратный корэнь, метр.

КВАДРАТУРА — квадратура.

КІЛЕМЭТР — километр (греч. chilioi — тысяча; metron — мера).

КІНУЦЬ НАЎСКОС — бросить под углом.

КІРАВАЦЬ — направлять, править.

КІРУНАК — направление; простая ідзе у адваротным кірунку — прямая идет в обратном направлении.

КІРУЮЧАЯ ЛІНІЯ — напрарляющая линия.



КЛУБ — шар. [Цела, створанае аваротам паўкруга кругом дыямэтра, абмежываючага яго, завецца клубам, а паверхня, створаная пры гэтым поўакружнасьцю, зав. клубавой або сфэрычнаю, паверхняй. Тэарэма. Усякае сечыва клуба пласмом ёсьць круг].

КЛУБАВЫ — шаровой; клубавы зрэз (сэгмэнт), вырэз (сэктар), пласт — шаровой сегмент, сектор, слой; клубавая паверхня — шаровая поверхность.

КОНІЧНЫ, КУЧМЕННЫ — конический; кучменная, конічная паверхня — коническая поверхность; паверхня кучмяня, конуса — поверхность конуса.

КОНЦЭНТРЫЧНЫ — концентрический.

КОНУС (кучмень) — конус (греч. konos — шышка).

КОСІНУС — косинус; лінія косінуса — линия косинуса.

КОСІНУСОІДА — косинусоида.

КОСЫ — косой.

КОСЭКАНС — косеканс; лінія косэканса — линия косеканса.

КОТАНГЭНС — котангенс; лінія котангэнса — линия котангенса.

КОЭФІЦЫЕНТ — коэффициент (лат. cum — с, вместе с; efficiens — делающий).

КРОТНАЕ — кратное; найменшае кротнае — наименьшее кратное.

КРОТНЫ — кратный.

КРУГ — круг; вялікі круг клуба — большой круг шара.

КРУГЛЫЯ ЦЕЛЫ — круглые тела.

КРУГЛЯНЫ, ЦЫЛІНДРЫЧНЫ — цилиндрический; круглянная, цыліндрычная паверхня — цилиндрическая поверхность.

КРУГЛЯЧ, ЦЫЛІНДР — цилиндр; вось кругляча (цыліндра) — ось цилиндра; разварот кругляча (цыліндра) — развертка цилиндра. [Цылірдрычнай (круглянай) паверхняй зав. паверхня, створаная рухам простай (AB), каторая перамяшчаецца ў прасторы раўналегла дадзенаму кірунку і перасекае пры гэтым дадзеную лінію (M N.). Простая AB зав. творачаю, а лінія M N. кіруючаю. Сечыва простага кругавога кругляча (цыліндра) пласмом, раўналегла аснове, ёсьць круг]

КРУЖАК, ДЫСК — диск; кружаковы, дысковы — дисковый.

КРУЖНЫ? (аваротны) РУХ — вращательное движение.

КРЫВАЛІНЕЙНЫ — криволинейный.

КРЫЖАВАЦЦА — скрещиваться; крыжуючыяяся простыя — скрещивающиеся прямые; скрыжаваныя простыя — скрещенные прямые.

КУБАТУРА — кубатура.



КУБ — куб (греч. kubos — предмет с шестью гранямі; напр. игральная кость). (Кубам завецца правільны шасьцісьцен).

КУБІЧНЫ — кубический; кубічны карэнь — кубический корень; кубічнае раўнаваньне — кубическое уравнение; кубавіднае цела — тело формы куба.

КУТ — угол (гл. сл. угол). [Калі дзьве напоўпростыя выходзяць з аднаго пункту, то фігура, створаная гэтымі напоўпростымі (разам з часьцю пласма, абмежанага імі) завецца кутом. Два куты лічацца роўнымі калі пры накладзе яны могуць сумесьціцца].

КУТ ПРОСТЫ, ВОСТРЫ, ТУПЫ, КОСЫ — угол прямой, острый, тупой, косой.

КУТ ПРЫ АСНОВЕ, ПРЫ БАКУ, ПАМІЖ ДВОХ БАКОЎ — угол при основании, при стороне, между двух сторон.

КУЧМЕНЬ, КОНУС — конус.

## Л

ЛАМАНАЯ ЛІНІЯ — ломаная линия [Адрэз простай карацей усякай ламанай, праведзенай паміж яго канцамі].

ЛАСЬЦІВАСЬЦЬ (своmасьць) — свойство; ласьцівы (свомы) — свойственный.

ЛЕГАРЫТМ — логарифм (греческое искуственное слово); аснова (карэнь) лёгарытма — основание логарифма.

ЛЕГАРЫТМАВАНЬНЕ — логарифмирование.

ЛЕГАРЫТМІЧНЫ — логарифимический; лёгарытмічныя табліцы — логарифмические таблицы; выражэньні лёгарытмічнага і нелёгарытмічнага віду — выражения логарифмическаго и нелогарифмическаго вида; надаць лёгарытмычны від (або зьвясьці к лёгарытмічнаму віду) — привести к логарифмическому виду.

ЛЕКАЛО — лекало.

ЛЕМА — лемма (греч. lemma — предварительное условие, положение, на основании котораго разсуждают далее).

ЛІМБ — лимб (лат. limbus — край одежды, материи и т. д.).

ЛІНЕЙКА — линейка; маштабнаа лінейка — масштабная линейка.

ЛІНІЯ — линия (лат. lineum — надрез, натиск, отпечаток, черта); простая, крывая, ламаная, выпуклая лінія — прямая, кривая, ломаная, выпуклая линия; уклятлая крывая лінія — вогнутая, кривая линия.

ЛІК, ЛІЧБА — число; падвоіць лік бакоў трыкутніка — удвоить число сторон треугольника, напісаць лічбу 175 — написать число 175.

ЛІТАРА — буква; літарнае раўнаваньне — буквенное уравнение



ЛІЧБОВЫ — числовой; лічбовая залежнасьць паміж.... — числовая зависимость между...

ЛІЧНІК (колітнік?) — числитель.

ЛУЧАК (радыюс) АБМЕЖАНАЙ, УМЕЖАНАЙ АКРУЖНАСЬЦІ — радиус описанной, вписанной окружности (гл. сл. радиус).

ЛУЧЫЦЬ, ЗЛУЧАЦЬ — соединить, - ять; лучым пункты А і В простай — соединяем точки А и В прямой.

## М

МАЛАДЗІЧКІ (Гіпократа) — Луночки (Гіпократовы).

МАТЭРЫЯ — вещество (лат. materia — вещество); матэрьяльны — вещественный, материальиый; (але: вещественный корень — істотны карэнь).

МАШТАБ — масштаб (нем. masstab — палка для измерения); маштабная лінейка — масштабная линейка.

МЕРА — мера; мера абыйма, сыпучых і плыўкіх целаў — мера об'ема, сыпучих и жидких тел.

МЕРАНЬНЕ — измерение (как действие); мераньне адлегласьці — измерение разстояния.

МЕРЧЫ ЛАНЦУГ — мерная цепь.

МЕНЗУЛА — мензула (лат. mensa — стол; mensula — столик).

МІЛІМЭТР — милиметр (лат. mille — тысяча; греч. metron — мера).

МІНУТА, ДУГАВАЯ, КУТАВАЯ — минута дуговая, угловая (лат. minutus — разделенный, раздробленный).

МІНУС — минус (лат. minus — менее); злучыць знакам мінус — соединить знаком минус.

МНАГАКУТНІК — многоугольник.

МНАГАКУТНЫ — многоугольный.

МНАГАСКЛАД — многочлен; дву-тры-чатырасклад — 2-3-4-член; аднародны мнагасклад — однородный многочлен.

МНАГАСЬЦЕН — многогранник; (Мнагасьценам завецца цела абмежанае з усіх старон плосмамі).

МНОЖНАЕ — множимое.

МНОЖІК — множитель.

МЭДЫЯНА — медиана (лат. medium — средина).

МЭТОДА — метод (греч. methodos — розыск, рассмотрение, изследование; средство, способ изследования).

МЭТР — метр (греч. metron — мера); квадратны, кубічны мэтр — квадратный, кубіческий метр.

МЭТРЫЧНАЯ СЫСТЭМА — метрическая система.

МЯНОЎНАЯ? (іменная! мерная?) ЛІЧБА — именованное число.



## Н

НАВЫТАР — упражнение; прыклады для навытару — примеры для упражнения; навытарацца — упражняться.

НАДАЦЬ ВІД (зьвясьці к віду) — привести к виду.

НАЗІРАЦЬ — наблюдать.

НАЗОР — наблюдение.

НАЗОРЛІВАСЬЦЬ — наблюдательность.

НАЗОРШЧЫК — наблюдатель.

НАЗОЎНІК (часьціўнік?) — знаменатель.

НАЙВЯЛІКШЫ, НАЙБОЛЬШЫ — найбольший.

НАЙКАРОТШЫ — кратчайший. [Найкаротшая адлегласьць паміж двумя пунктамі ёсьць простая].

НАЙМЕННА — именно.

НАЙМЕНЬНЕ — наименование.

НАЙМЕНШЫ — найменьший.

НАКЛАД, НАКЛАДАНЬНЕ — наложение; накласьці адну фігуру на другую — наложить одну фігуру на другую.

НАПОЎПРОСТАЯ, ПРАМЕНЬ — полупрямая, луч.

НАРЫСАВАЦЬ — нарисовать, начертить.

НАСТУПНЫ — следующий.

НАСЬЦЕННЫ, ПРОЭКТЫЎНЫ — проективный.

НАСЬЦЕНЬ, ПРОЭКЦЫЯ — проекция.

НАЎЗАБЕЖНЫ — предварительный.

НАЎСКОС — косо.

НАЎСКОС КІНУЦЬ — бросить под углом.

НАЎСКРЫЖНЫЯ КУТЫ УНУТРАНЫЯ, ЗЬНЕШНІЯ — накрестлежащие углы внутренние, внешние.

НЕАБМЕЖАНЫ, БЯЗЬМЕЖНЫ — неограниченный.

НЕАЗНАЧАНАСЦЬ — неопределенность.

НЕАЗНАЧАНАЯ адповедзь — неопределенный ответ; неазначанае раўнаваньне, разьвязаньне — неопределенное уравнение, решение.

НЕДАРЭЧНАСЬЦЬ, АБСУРД — нелепость, абсурд.

НЕЗАМКНУТЫ — незамкнутый.

НЕМАГЧЫМА — невозможно; немагчымае разьвязаньне — невозможное решеніе.

НОРМАЛЬ (прастапад) — нормаль (лат. norma — обычай).

НУТРО — внутренность.

НУЛЬ — нуль (лат. nullus — никакой); нулявы — нулевой; нулявое разьвязаньне — нулевое решение.

НЯПАРНЫ (няцотны) — нечетный.

НЯРОЎНАСЬЦЬ — неравенство.

НЯСУМЕРНЫ (нясызмерны) — несоизмеримый; касоды квадрата нясумерны (нясызмерны) з яго бокам — диагонали квадрата несоизмеримы с его стороною; [тасунак даўжыні акружнасьці да дыямэтра ёсьць лічба несумерная (нясызмерная). Гэты два адрэзы нясумерны (нясызмерны) паміж сабой].

НЯСУМЕСЬЦІМЫ — несовместимый.



## П

ПААСОБКУ — порознь. Калі дзьве велічыні роўны паасобку аднэй і тэй жа трэцяй велічыне, то яны роўны паміж сабой — если две величины равны порознь одной и той же третьей величине, то они равны между собой.

ПАБУДОВА — построение; пабудаваць тр-к з даных яго бакоў — построить тр-к по данным его сторонам.

ПАВЕРХНІ — поверхностный.

ПАВЕРХНЯ (вярхніна?) — поверхность; бакавая, поўная паверхня — боковая, полная поверхность; крывая, круглая паверхня — кривая, круглая поверхность.

ПАВЯЛІЧЫВАЦЦА, ПАВЯЛІЧВАЦЦА, ПАВЯЛІЧАЦЦА — увеличиваться.

ПАВЯЛІЧЭНЬНЕ — увеличение.

ПАВЯЛІЧЫЦЦА — увеличиться.

ПАДАНЬНЕ — падение.

ПАДВАЕНЬНЕ — удвоение; формула падваеньня — формула удвоения.

ПАДВАЛІНА, ПРЫНЦЫП — принцип.

ПАДВОЕНЫ — удвоенный, подвоившийся; скласьці з подвеным множывам — сложить с удвоенным произведеннем.

ПАДВОІЦЦА — удвоиться.

ПАДВОІЦЬ ЛІК БАКОЎ — удвоить число сторон.

ПАДВОЙНЫ — двойной; функцыя падвойнага кута — функция двойного угла.
ПАДЗЕЛ — разделение.
ПАДЗЕЛЬНАСЬЦЬ — делимость
ПАДКАРНЯВАЯ СКОЛЬКАСЬЦЬ — подкоренное количество.
ПАДКАРНЯВОЕ МЕЙСЦА — (або мейсца пад каранём) — подкоренное место.
ПАДНЯЦЬ (паставіць) ПРАСТАПАД — возставить перпендикуляр; з пункта А простай ВС падняць на ёй праста-пад — из точки А прямой ВС возставить к ней перпендикуляр.
ПАДОБНАСЬЦЬ — подобие; разьдзел аб падобнасьці — отдел о подобии; азнакі падобнасьці трыкутнікаў — признаки подобия треугольников.
ПАДОБНЫ — подобный; падобныя склады, тр-кі; — подобные члены, тр-ки; зьвядзеньне падобных складаў — приведение подобных членов. [Два мнагакутнікі з аднолькавым лікам бакоў завуцца падобнымі, калі кугы аднаго адпаведна роўны кутам другога і аднародныя бакі іх прапарцыянальны].
ПАДРАХУНАК — итог.
ПАДСТАНОЎКА — подстановка; зрабіць падстаноўку — произвести подстановку.
ПАЗЕМЫ, ГАРЫЗОНТНЫ — горизонтальный.
ПАКАЗ — указание.



ПАКАЗЧЫК СТУПЕНІ, КАРАНЯ — показатель степени, корня; зьвясьці радыкалы (ступнякі) да агульнага паказчыка — привести радикалы к общему показателю.
ПАМЕР — измерение (как понятие); усякае фізычнае цела мае тры памеры — всякое физическое тело имеет три измерения; мы жывем у сьвеце трох памераў — мы живем в мире трех измерений.
ПАМЕРАНЫ — измеренный.
ПАПЯРЭДНІ — предыдущий (але: предыдущий член отношения; — пярэдні склад тасунку).
ПАПЯРЭЧНЫ — поперечный; папярэчнае сячэньне, сечыва — поперечное сечение.
ПАРАБОЛА — парабола (грэч. parabole — постановка двух предметов один возле другого для сравнения).
ПАРАБОЛІЧНЫ — параболический.
ПАРАБОЛОІД — параболоид.
ПАРАЛЕЛАГРАМ (раўналеглабочнік) — параллелограм.
ПАРАЛЕЛЕПІПЕД (раўналегласьцен) — параллелепипед.
ПАРАЎНАНЬНЕ — сравнение.

ПАРАЎНАЛЬНЫ — сравнительный; параўнальная даўжыня, велічыня — сравнительная длина, величина.

ПАРНЫ (цотны) — четный.

ПАСКЛАДНА — почленно.

ПАСОЎНАСЬЦЬ — совпадение (гл. сл. совпадение).

ПАСТАВІЦЬ ПРАСТАПАД — возставить перпендикуляр (гл. сл. падняць прастапад).

ПАСТУПЕННА — последовательно.

ПАСТУПЕННЫ — последовательный; паступеннае дзяленьне — последовательное деление,

ПАСТУПНЫ РУХ — поступательное движение.

ПАТРОІЦЬ (троміць?) — утроить.

ПАТРОЙНЫ, ПАТРОЕНЫ — тройной, утроенный.

ПАТОЎПІЦЬ (утоўпіць, стоўпіць) — вмещать, вместить.

ПАТОЎПЛІВАСЬЦЬ — вместительность.

ПАТОЎПЛІВЫ — вместительный.

ПАТОЎПНАСЬЦЬ — вместимость.

ПАХІЛАЯ — наклонная. [Калі з аднаго і таго-ж пункту, ўзятага зьне простай, праведзены да гэтай простай прастапад і якія хаця пахілыя то: 1⁰. Найкаротшая з усіх гэтых простых ёсьць прастапад. 2⁰. Калі дзьве пахілыя роўны, то іх асновы аднолькава аддалены ад асновы прастапада].

ПАЧВОРНЫ — учетверенный.

ПАШЫРЭНЬНЕ — распространение.



ПАЯС (сярэдняя лінія трапэцыі, трыкутніка) — средняя линия трапеции, треугольника.

ПЕРАМЕННЫ, ЗЬМЕННЫ — переменный; зьменная, пераменная велічыня — переменная величина.

ПЕРАНОС — перенесение, перенос.

ПЕРАСЕЧНАЯ (перасечаная) — пересекаемая.

ПЕРАСЯКАЦЬ — пересекать; лінія перасякае фігуру — линия пересекает фигуру.

ПЕРАСЯКАЮЧАЯ (або перасечніца) — пересекающая.

ПЕРАСЕЧА (перасек?) — пересечение; перасякаючая — пересекающая; перасечная (або перасечаная) — пересекаемая; пункт перасечы (перасеку) — точка пересечения.

ПЕРАСТАЎКІ (у алг.) — перестановки.

ПЕРАТВАРЫЦЬ, ПЕРАТВАРАЦЬ — обратить, обращать. [Ператварыць дадзены мнагакутнік у раўнавялікі трыкутнік. Пахілую прызму ператварыць у раўнавялікую простую].

ПЕРАТВАРЫЦЬ — преобразовать.

ПЕРАТВОРАНЬНЕ — преобразование.

ПІРАМІДА — пирамида; урэзаная, правільная піраміда — усеченная, правильная пирамида. [Пірамідаю завуць мнагасьцен, у каторага адна сьцяна, званая асноваю, ёсьць які небудзь мнагакутнік, а ўся



рэшта сьцен званых бакавымі, — трыкутнікі, маючыя супольную вершадзь].

[Тэарэмы. Калі піраміда перасечана пласмом, раўналегла аснове, то: $1^0$, бакавыя канты і вышыня дзеляцца гэтым пласмом на часьці прапарцыянальныя; $2^0$, у сечыве атрымліваецца мнагакутнік, падобны аснове; $3^0$, плошчы сечыва і асновы тасуюцца, як квадраты іх адлегласьцяў ад вершадзі].

ПЛАНІМЭТР**Ы**ЧНАЯ ЗАДАЧА — планиметрическая задача.

ПЛАНІМЭТРЫЯ (або плосмая геамэтрыя) — планиметрия.

ПЛАСМ**О** (плашчыня, роўнядзь?) — плоскость; два пласм**ы** — две плоскости. [Пласм**о**м завецца паверхня, абладаючая той ласьцівасьцю (свомасьцю), што простая праходзячая праз два давольныя пункты гэтай паверхні, ляжыць на ёй ўсімі другімі сваімі пунктамі. Усякую часьць пласма можна налажыць ўсімі яго пунктамі на другое мейсца гэтага або другога пласма, пры чым накладаную часьць можна наўзабежна перавярнуць на другую старану].

ПЛАСТ — слой; клубав**ы** пласт — шаровой слой.

ПЛАШЧЫНЯ? (пласм**о**!, роўнядзь?) — плоскость (гл. сл. пласмо).

ПЛ**О**СМЫ — плоский; пл**о**смы кут — плоский угол.



ПЛ**О**ШЧА — площадь; знайсьці (азначыць) плошчу — определить площадь; меры плошчаў — меры площадей. (Тэарэма. Плошчы двох трыкутнікаў, маючых па роўным куце, тасуюцца, як множыва бакоў, зьмяшчаючых гэты куты. Лема. Плошчы двох прастакутнікаў, маючых роўныя асновы, тасуюцца як іх вышыні]

ПЛЯН — план (лат. planus — ровный, гладкий, ясный, разумный, удобопонятный); скласьці плян разьвязаньня задачы — составить план решения задачи; сплянаваць мяйсцовасьць (або зрабіць плян мяйсцовасьці) — снять план местности.

ПОСТУЛАТ — постулат (лат. postulatum — требование, настойчивое желание).

ПОЎАКРУЖНАСЬЦЬ — полуокружность.

ПОЎСУМА — полусумма; простая, якая лучыць сярэдзіны бакоў трапэцыі, раўналегла асновам трапэцыі і роўна поўсуме іх — прямая, соединяющая средины боков трапеции, параллельна основаниям трапеции и равна полусумме их.

ПРАВЕРКА — проверка, поверка; праверачнае (кантрольнае) аблічэньне — контрольное вычисление.

ПРАВЕХАВ**А**ЦЬ (простую) — провешить прямую правехав**а**ць (вызначыць ве-

хамі, правясьці) базіс — провешить базис.

ПРАВІЛА — правило.

ПРАВІЛЬНЫ, СПРАВЯДЛІВЫ, ПРАЎДНЫ — правильный.

ПРАВЯСЬЦІ — провести; правясьці простую лінію — провести прямую линию; правясьці (пабудаваць) раўнадзелячую — провести (построить) биссектриссу.

ПРАДОЎЖЫЦЬ — продолжить; прадоўжыць бок на адлегласьць роўную CD — продолжит сторону на разстояние CD.

ПРАМЕНЬ (напоўпростая) — луч (полупрямая).

ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ — пропорциональность; простая і адваротная прапарцыянальнасьць — прямая и обратная пропорциональность.

ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНЫ — пропорциональный; прапарцыянальная залежнасьць — пропорциональная зависимость.

ПРАПОРЦЫЯ — пропорция (лат. proportio — соответствие, равномерность, относительность); канцавыя, сярэднія склады прапорцыі — крайние средние члены пропорции; арытмэтычная (розьнічная), геамэтрычная (кротная) прапорцыя — арифметическая (разностная), геометрическая (кратная) пропорция; беспера-



рыўная прапорцыя — непрерывная пропорция.

ПРАСТАКУТНІК — прямоугольник.

ПРАСТАКУТНЫ ТРЫКУТНІК — прямоугольный треугольник.

ПРАСТАЛІНЕЙНЫ — прямолинейный; прасталінейная трыганамэтрыя — прямолинейная тригонометрия.

ПРАСТАПАД, ПЭРПЭНДЫКУЛЯР — перпендикуляр; прастапад да лініі AB — перпендикуляр к линии AB; апусьціць прастапад на лінію AB — опустить перпендикуляр на линию AB; падняць (або паставіць) прастапад на лініі AB — возствить перпендикуляр к линии AB. [Простая завецца прастападнаю к пласму, калі яна перасякаецца з гэтым пласмом і пры гэтым творыць простыя куты з усімі простымі праведзенымі на пласме праз пункты перасечы].

ПРАСТАПАДНЫ — перпендикулярный; лінія AB прастападна да CD — линия AB перпендикулярна к CD; лінія MN і KL ўзаемна прастападны — линии MN и KL взаимно перпендикулярны.

ПРАСТОР — пространство; прасторлівы — пространственный. (Праз усякіх два пункты прастору можна правясьці простую і пры тым толькі адну].

ПРАЎДНЫ — верны; п р а ў д н а — верно; з а д а ч а р а з ь в я з а н а п р а ў д н а — задача решена верно.

ПРАЦЯГ, ПРАДОЎЖАНЬНЕ — продолжение; у п р а ц я г у — впродолжение; п р а д о ў ж ы ц ь п р о с т у ю д а б я з ь м е ж н а с ь ц і — продолжить прямую до безконечности.

ПРАЕКТ — проект (лат. projectum — брошенное наперед, начертанное с самаго начала, прежде всего изложенное).

ПРАЕКТЫЎНЫ, НАСЬЦЕННЫ — проективный.

ПРАЕКЦЫЯ, НАСЬЦЕНЬ — проекция.

ПРОСТАЯ ЛІНІЯ — прямая линия; н а п о ў п р о с т а я (п р а м е н ь) — полупрямая (луч); п р о с т а я а б м е ж а н а я — прямая конечная; п р о с т а я б я з ь м е ж н а я — прямая безконечная.

ПРОСТЫ КУТ — прямой угол. [Кожды з роўных сумежных кутоў завецца простым].

ПРОСТАЯ ПРЫЗМА, ПІРАМІДА — прямая призма, пирамида.

ПРОСТАЯ ТЭАРЭМА — прямая теорема.

ПРЫ — при; к у т ы п р ы а с н о в е, п р ы ў к о с ь н і ц ы (г і п о т э н у з е). — углы при основании, при гипотенузе.

ПРЫБЛІЗНЫ — приблизительный; п р ы б л і з н а п р а ў д н ы, п р а в і л ь н ы — приблизительно верный.

ПРЫБЛІЖАЦЦА — приближаться; п р ы б л і ж а е ц ц а (або з б л і ж а е ц ц а) д а н у л я, д а р у б я ж а, д а п у н к т у А — приближается к нулю, к пределу, к точке А.



ПРЫБЛІЖЭНЬНЕ — приближение; з н а й с ь ц і з п р ы б л і ж э н ь н е м д а 0,01 — найти с приближением до 0,01.

ПРЫБЛІЖОНЫ — приближенный; з н а й с ь ц і п р ы б л і ж о н ы т а с у н а к з п у н к т у а л ь н а с ь ц ю (з т о ч н а с ь ц ю) д а 0,1 — найти приближенное отношение с точностью до 0,1.

ПРЫЗМА — призма (греческое слово означающее разрезанное бревно с плоскими гранямі).

ПРЫКЛАДАМ — например.

ПРЫКЛАДАНЬНЕ — приложение (Гл. сл. приложение). Д о в а д с п а с а б а м п р ы к л а д а н ь н я — доказательство путем приложения.

ПРЫЛАДА — прибор.

ПРЫЛЕГЛЫ — прилежащий; д в а т р - к і р о ў н ы к а л і д в а к у т ы і п р ы л е г л ы д а і х б о к а д н а г о т р - к а а д п а в е д н а р о ў н ы д в у м к у т а м і п р ы л е г л а м у д а і х б о к у д р у г о г а т р - к а — два тр-ка равны если два угла и прилежащая к ним сторона одного тр-ка соответственно равны двум углам и прилежащей к ним стороне другого тр-ка.

ПРЫНЦЫП, АСНОВА — принцип (лат. principium — начало, происхождение, основа, первоусловие).

ПРЫПАДАК, ВЫПАДАК — случай; прыпадкі роўнасьці трыкутнікаў — случаи равенства тр-ков.

ПРЫ ПОМАЧЫ — посредством.

ПРЫРОДНЫ СЬЦЯГ ЛІЧБАЎ — естественный ряд чисел.

ПРЫСЬПЕХ — ускорение.

ПУНКТ — точка.

ПУНКТ ДОТЫКУ — точка касания.

ПУНКТ ПЕРАСЕЧЫ ПРОСТЫХ, КРЫВЫХ, АКРУЖНАСЬЦЯЎ — точка пересечения прямых, кривых, окружностей.

ПУНКТУАЛЬНАСЬЦЬ (точнасьць) — точность; аблічыць з пунктуальнасьцю (з точнасьцю) да 0,1 — вычислить с точностью до 0,1.

ПУНКТУАЛЬНЫ, ТОЧНЫ — точный.

ПЭРПЭНДЫКУЛЯР, ПРАСТАПАД — перпендикуляр (лат. perpendiculum нитка с тяжестью на конце).

ПЭРЫЕДЫЧНЫ — периодический; пэрыёдычная функцыя — периодическая функция; сінус зьмяняецца пэрыёдычна — синус изменяется периодически.

ПЭРЫМЭТР — периметр (греч. perimetreo — измеряю кругом, во всех направлениях).

ПЭРЫОД (пэрыёд) — период (греч. periodos — обход, дозор, правильно повторяющееся движение; расписание очереди общественных игр).



ПЯРЭДНІ СКЛАД ТАСУНКУ — предыдущий член отношения.

ПЯРЭЧЛІВЫ — противоречивый.

ПЯРЭЧАНЬНЕ — противоречие; гэта пярэчыць варунку — это противоречит условию.

## Р

РАДЫКАЛ, СТУПНЯК — радикал (лат. radicalis — корневой); знак радыкала, ступняка — знак радикала.

РАДЫЯЛЬНЫ — радиальный (лат. radialis — лучевой); радыяльны памер — радиальное измерение.

РАДЫЮС, ЛУЧАК — радиус (лат. radius — луч, спица в колесе); радыюс, лучак-вэктар — радиус-вектар. [Простыя, якія лучаць ясяродак акружнасьці з пунктамі на гэтай акружнасьці завуцца радыюсамі або лучакамі].

РАДЫЯН — радиан.

РАЗВАРОТ КОНУСА, КУЧМЯНЯ — развертка конуса; разьвернуты кругляч (цыліндр) — развернутый цилиндр.

РАЗВАЖАНЬНЕ — разсуждение.

РАЗВАЖАЦЬ — разсуждать.

РАЗДРАБНЕНЬНЕ — раздробление.

РАЗДРАБНІЦЬ — раздробить; раздрабніць мэтры у сантымэтры — раздробить метры в сантиметры.

РАЗНАЯКІ — различный.

РАЗРЫЎНЫ — разрывной; разрыўная функцыя — разрывная функция.
РАЗЬВЯЗАНЬНЕ (у мат.) — решение.
РАЗЬВЯЗАЦЬ ЗАДАЧУ — решить задачу.
РАЗЬДЗЯЛІЦЬ — разделить.
РАМО (катэт) — катет (гл. сл. катет).
РАСКЛАД -- разложение.
РАСКЛАСЬЦІ — разложить; мнагакутнік раскласьці на трыкутнікі — многоугольник разложить на треугольники.
РАСПАДЗЕЛ — распределение.
РАСПАЛАЖЫЦЬ — расположить,
РАЎНААДЛЕГЛЫ (раўнаадлежны)—равноотстоящий
РАЎНАБЕДРЫ — равнобедренный.
РАЎНАБОЧНЫ (раўнабокі) ТРЫКУТНІК, ТРАПЭЦЫЯ — равносторонний треугольник, равнобочная трапеция.
РАЎНАВАГА — равновесие.
РАЎНАВАНЬНЕ (раўн-е) — уравнение (ур-ние); раўнаваньне першай ступені, квадратнае, кубічнае, біквадратнае — уравнение первой степени, квадратное, кубическое, биквадратное; раўнаваньне неазначанае — ур-ние неопределенное; раўн-е з 2 няведамымі — ур-ние с 2 неизвестными.
РАЎНАВЯЛІКІ — равновеликий.
РАЎНАДЗЕЛЯЧАЯ (бісэктрыса) — биссектрисса.
РАЎНАДЗЕЙНАЯ — равнодействующая.
РАЎНАЛЕГЛА, ПАРАЛЕЛЬНА — параллельно.



РАЎНАЛЕГЛАБОЧНІК (раўналежнабочнік?), ПАРАЛЕЛАГРАМ — параллелограм. [Ва ўсякім раўналеглабочніку (паралелаграме) касоды (дыягналі) дзеляцца папалам].
РАЎНАЛЕГЛАСЬЦЕН (паралелепіпед) — параллелепипед. [Раўналегласьценам (паралелепіпедам) завуць прызму, у каторай асновамі слудажаць раўналеглабочнікі (паралелаграмы)].
РАЎНАЛЕГЛЫ, (раўналежны?) ПАРАЛЕЛЬНЫ паралельный. [Праз адзін і той-жа пункт нельга правясьці дзьвех рожных простых, раўналеглых аднэй і тэй-жа простай. Калі бакі адналеглых аднэй і тэй-жа простай. Калі бакі аднаго кута адпаведна раўналеглы бакам другога кута, то такія куты або роўны, або ў суме складаюць два простых].
РАЦЫЯНАЛЬНЫ — рациональный.
РОВЕН — равняется, равен; плошча трыкутніка роўна палове множыва асновы на вышыню — площадь треугольника равняется половине произведения основания на высоту.
РОГ — телесный, многогранный угол; трысьценны, чатырасьценны... рог — трегранный, четырегранный.. угол (гл. сл. угол)
РОГ (гл. сл. угол) ПРОСТЫ, ТУПЫ, ВОСТРЫ — телесный угол прямой, тупой, острый. [Тэарэма. У выпуклым мнагасьценным рагу сума кутоў менш 4 d].
РОЖНІЦА ПАНЯЦЬЦЯ — разница понятия; рожніца паміж геамэтрыяй і тры-

ганамэтрыяй тая, што... — разница между геометрией и тригонометрией та, что....

РОЗЬНІЧНЫ (рознасны) ТАСУНАК (адносіны), ПРАПОРЦЫЯ — разностное отношение, пропорция.

РОЗЬНІЦА — разность (или разница величины); — пры адыманьні мы атрымалі розьніцу — при вычитании мы получили разность.

РОМБ — ромб (греч. rhombos — особый вид рыбы; детская игрушка юла).

РОЎНАСЬЦЬ — равенство; знак роўнасьці — знак равенства; роўнасьць двох мнагакутнікаў — равенство двух многоугольников. [Два трыкутнікі роўны: 1°. Калі два бакі і кут, зьмешчаны паміж імі, аднаго трыкутныка адпаведна роўны двом бакам і куту, зьмешчанаму паміж імі, другога трыкутніка; або 2°. Калі два куты і прылеглы да іх бок аднаго трыкутніка адпаведна роўны двом кутам і прылегламу к ім боку другога трыкутніка; або 3°. Калі тры бакі аднаго трыкутніка адпаведна роўны тром бакам другога трыкутніка].

РОЎНЫ — равный.

РОЎНЯДЗЬ? (пласмо! плашчыня?) — плоскость (Гл. сл. пласмо).

РУБЕЖ — предел; спосаб рубяжоў — способ пределов. [Рубяжом пераменной велічыні зав. такая сталая велічыня, да каторай



пераменная прібліжаецца так, што розьніца паміж імі імкнецца да нуля, г. зн. яна робіцца і астаецца менш усякай данай вартасьці. Лема. Абыймо кругляча ёсьць супольны рубеж абыймаў правільных умежаных і абмежаных прызм пры бязьмежным падваеньні ліку іх бакавых сьцен].

РУБЕЖНЫ — предельный; рубежная вартасьць велічыні — предельное значение величины.

РЫСАВАЦЬ — рисовать, чертить.

РЫСКА — черта.

РЫСУНАК — чертеж, рисунок.

РЭЗУЛЬТАТ — результат, у рэзультаце разьвязаньня задачы — в результате решения задачи; што атрымалі ў рэзультаце — что получили в результате.

## С

САЖАНЬ — сажень; квадратны, кубічны сажань — квадратная, кубическая сажень.

САНТЫМЭТР — сантиметр (лат. centum — сто; греч. metron — мера).

САЎПАДАЦЬ — совпадать (гл. сл. совпадение).

СВОМАСЬЦЬ (ласьцівасьць, ўласьцівасьць?) — свойство.

СЕЧЫВА — сечение (как фигура); пры сячэньні клуба па вялікаму кругу ў

с е ч ы в е а т р ы м л і в а е ц ц а к р у г — при сечении шара по большому кругу в сечении получается круг.

СІНУС — синус; л і н і я с і н у с а — линия синуса.

СІНУСОІДА — синусоида.

СКАЗ — предложение.

СКІРАВАЦЬ — направить.

СКЛАД — член (в мат.); с к л а д м н о г а с к л а д у — член многочлена.

СКЛАД ТЭАРЭМЫ — состав теоремы.

СКЛАДАНКА, СКЛАДАНЫ, СКЛАДОМЫ — слагаемое.

СКЛАДАНЬНЕ — сложение; з н а к с к л а д а н ь н я — знак сложения.

СКЛАДАЦЬ — складывать, составлять; а д р э з А В с к л а д а е п р о с т у ю ч а с ь ц ь а д р э з а А С — отрезок АВ составляет прямую часть отрезка АС.

СКОБКІ — скобки; в ы н я с ь ц і м н о ж н і к з а с к о б к і — вынести множитель за скобки.

СКОРАСЬЦЬ — скорость.

СКРЫЖАВАНЫЯ ПРОСТЫЯ — скрещенныя прямыя.

СПАМОЖНЫ, УСПАМОЖНЫ — вспомогательный.

СПАСЬЦЯРОГА — наблюдение.

СПЛЯНАВАЦЬ МЯЙСЦОВАСЬЦЬ (або з р а б і ц ь п л я н м я й с ц о в а с ь ц і — снять план местности.



СПОСАБ РУБЯЖОЎ — способ пределов.

СПРАВЯДЛІВЫ, ПРАВІЛЬНЫ, ПРАЎДНЫ — правильный.

СПРОСЬЦІЦЬ — упростить, выпрямить.

СПРОШЧАНЬНЕ — упрощение.

СКЛАДЗЕНЫ, САСТАЎНЫ — составной.

СТАЛЫ — постоянный; с т а л а я в е л і ч ы н я постоянная величина.

СТАЦЬЦЯВЫ ? (с т о ц ь н ы !) — вертикальный; с т о ц ь, с т а ц ь м а — вертикально.

СТВАРЫЦЬ — образовать.

СТОЎПІЦЬ (п а т о ў п і ц ь, у т о ў п і ц ь) — вмещать, вместить.

СТОЦЬ — вертикально; п а с т а в і ц ь р э й к у с т о ц ь — поставить рейку вертикально; с т о ц ь н ы (с т а ц ь ц я в ы) — вертикальный; с т о ц ь н а я (с т а ц ь ц я в а я) л і н і я — вертикальная линия; с т о ц ь н ы я (с т а ц ь ц я в ы я), с у п р о ц ь б о ч н ы я к у т ы — вертикальные углы.

СТРЭЛКА — стрелка.

СТУПЕНЬ — степень; а с н о в а (к а р э н ь), п а к а з ч ы к с т у п е н і — основание, показатель степени; с т у п н я в а ц ь — возвышать в степень; а д с т у п н я в а ц ь — извлечь корень; с т у п н я к, р а д ы к а л — радикал.

СТУПНЯВАНЬНЕ (у з в ы ш э н ь н е ў с т у п е н ь) — возвышение в степень; 4 с т у п н я в а ц ь у 5 с т у п е н ь (або 4 с т у п-

нявацъ 5 разоў) — 4 возвысить в 5 степень; ад ступняваньня кождага сумножніка ў ступень n, множны также ступнюецца ў ступень n — от возвышения каждаго сомножителя в степень n, произведение тоже возвышается в степень n.

СТУПНЯК (радыкал) — радикал.

СТЭРЭАМЭТРЫЯ (геамэтрыя у прасторы) — стереометрия (греч. sterros — твердый предмет; metreo — измеряю).

СУКЛАДЫ (у мат.) — сочетание.

СУМА (зьлічво) — сумма (лат. summus — самый верхний; римляне при сложении столбца цифр сумму писали сверху, от этого и получился термин сумма, что значит „верхняя" строчка).

СУМЕЖНЫ — смежный; сумежныя куты — смежные углы; кут ABC сумежны з кутом CBD — угол ABC смежный с углом CBD. [Тэар. Калі сума двох кутоў, маючых супольную вяршадзь і супольны бок і не пакрываючых адзін другога, роўна двум простым, то такія куты — сумежны, г. зн. два другіх бакі іх складаюць прадоўжаньне адзін другога].

СУМЕР, СУМЕРНЫ (сызмер?) — соизмерение, соизмеримый; сумерныя велічыні, адрэзы — соизмеримые величины, отрезки; сумерны тасунак — соизмеримое



отношение. [Тэарэма. Калі ў раўнабедрым трыкутніку кут пры аснове ровен 2/5 d, то бакавы бок яго нясумерны з асновай].

СУМЕСНАСЬЦЬ — совокупность, совместность; сумеснасьць усіх элемэнтаў — совокупность всех элементов.

СУМЕСЬЦІЦЦА — совместиться.

СУМНОЖНІК — сомножитель.

СУПОЛЬНЫ общий; два дадзеных трыкутнікі маюць супольны бок — два данных треугольника имеют общую сторону.

СУПРАЦІЎНЫ — противоположный; супраціўныя тэарэмы — противоположныя теоремы.

СУПРОЦЬ — против; ва ўсякім трыкутніку супроць роўных бакоў ляжаць роўныя куты — во всяком треугольнике против равных сторон лежат равные углы.

СУПРОЦЬБОЧНЫЯ (стоцьныя) КУТЫ — вертикальные углы.

СУПРОЦЬЛЕГЛЫ — противолежащий, противоположный.

СФЭРА — сфера (греч. sphaira — шар).

СФЭРЫЧНАЯ ПАВЕРХНЯ КЛУБАВОГА ЗРЭЗА (сэгмэнта), ВЫРЭЗА (сэктара), ПЛАСТА — сферическая поверхность шарового сегмента, сектора, слоя.

СФЭРЫЧНАЯ ТРЫГАНАМЭТРЫЯ — сферическая тригонометрия.

СЫЗМЕР (вымер, абмер) — измерение (как действие); зьмерыць (абмерыць) плошчу — измерить площадь.

СЫМЭТРЫЧНЫ — симметрический, -чный; два пласмы сымэтрычны тасунко-ва да трэцяга — две плоскости симметрична относительно третьей; сымэтрычныя фігуры — симметрическия фигуры.

СЫМЭТРЫЯ — симметрия (греч. syn i metron — соизмеримый; имеющий ту-же меру).

СЫНТЭЗ — синтез (греч. synthesis — составление, соединение, сообразование).

СЫНТЭТЫЧНЫ — синтетический; сынтэтычная мэтода — синтетический метод; разьвязать задачу сынтэтычнай мэтодай — решить задачу синтетическим методом.

СЬЛЕДУЮЧЫ, НАСТУПНЫ — следующий.

СЬЦЯГ (у мат.) — ряд; прыродны сьцяг лічбаў — естественный ряд чисел.

СЬЦЯНА (у геам.) — грань.

СЭГМЭНТ (зрэз) — сегмент (лат. segmentum — отрезок); сэгмэнт (зрэз) кругавы, клубавы — сегмент круговой, шаровой.

СЭКАНС — секанс (лат. secans — секущий, разрезывающий); лінія сэканса — линия секанса.



СЭКТАР (вырэз.) — сектор (лат. sector — вырез); сэктар (вырэз) кругавы, клубавы (або вырэз круга, клуба) — сектор круговой, шаровой, [Тэарэма. Плошча вырэза (сэктара) роўна множыву яго дугавіны на палову лучака (радыюса)].

СЭКУНДА ДУГАВАЯ (дугавінная?), КУТАВАЯ — секунда (лат. secundus — следующий) дуговая, угловая.

СЭНС — смысл.

СЯКУЧАЯ — секущая; зьнешняя часьць сякучай — внешняя часть секущей. [Калі з пункту, ўзятага зьне круга, праведзены да яго некалькі сякучых, то множыва кождай сякучай на яе зьнешнюю часьць ёсьць лічба сталая для ўсіх сякучых].

СЯРЭДЗІНА — средина.

СЯРЭДНЯЯ АРЫТМЭТЫЧНАЯ, ГЕАМЭТРЫЧНАЯ — среднее арифметическое, геометрическое.

СЯРЭДНЯЯ ЛІНІЯ ТРЫКУТНІКА, ТРАПЭЦЫІ (пояс) — средняя лінія тр-ка, трапеции.

СЯЧЭНЬНЕ — сечение (как действие).

## Т

ТАБЛІЦА ЛЕГАРЫТМАЎ — таблица логарифмов (лат. tabula — доска).

ТАКІМ ЧЫНАМ, ГЭТАКІМ ЧЫНАМ, ІТАК — итак, таким образом.

ТАНГЕНС — тангенс (лат. tangens — касающийся); лінія тангенса — линия тангенса.

ТАНГЕНСОІДА — тангенсоида.

ТАСАВАЦЦА — относиться; адрэз АВ так тасуецца да CD як 2 тасуецца да 3 — отрезок АВ так относится к CD, как 2 относится к 3.

ТАСУНАК (адносіны?) — отношение (лат. relatio — от-ношу); пярэдні і чародны склады тасунка (адносін) — предыдущий и последующий члены отношения; назоўнік тасунка — знаменатель отношенія; знаход тасунка — нахождение отношения; кротны тасунак — кратное отношение. [Тасункам дзьвёх вартасьцяў А і В аднэй і тэй жа велічыні завецца лічба, мерачая А, калі В принята за адзінку; інакш, лічба на которую трэба памножыць В, каб атрымаць А].

ТАСУНКОВЫ — относительный; тасунковае палажэньне акружнасьцяў — относительное положение окружностей.

ТАЎШЧЫНЯ — толщина.

ТВАРЫЦЬ — образовывать; лініі АВ і ВС твораць сабой кут ВАС — линии АВ і ВС образуют между собою угол ВАС.

ТЛУМАЧАНЬНЕ — раз'яснение, перевод.

ТОЖСАМАСЬЦЬ — тождество.

ТОЖСАМЫ — тождественный; гэты дзьве велічыні тожсамы — эти две величины тождественны.

ТОЧНАСЬЦЬ, ПУНКТУАЛЬНАСЬЦЬ — точность.



ТРАНСПОРТЫТР — транспортир (лат. transporto — переношу).

ТРАПІЦЬ — попасть, совпасть (гл. сл. совпадение).

ТРАНСЦЭНДЭНТНЫ — трансцендентный (лат. transcendo — перехожу).

ТРАПЭЦЫЯ — трапеция (греч. trapedza — стол, доска); ніжняя і верхняя аснова трапэцыі — нижнее а верхнее основание трапеции; бок трапэцыі — боковая сторона трапеции; пояс (сярэдняя лінія) трапэцыі — средняя линня трапеции.

ТРИГАНАМЭТРЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ — тригонометрическая функция. [Трыганамэтрычныя функцыі ёсьць дадатныя або ад'ёмныя лічбы, паказываючыя тасунак трыганамэтрычных ліній да лучака (радыюса) і іх просты або адваротны кірунак. Тэарэма. Трыганамэтрычная функцыя данага кута, не залежыць ад даўжыні радыюса (лучака)].

ТРЫГАНАМЭТРЫЧНЫ (спосаб, задача) — тригонометрический способ задача.

ТРЫГАНАМЭТРЫЯ — тригонометрия (греч. treis — три; gonia — угол; metreo — измеряю).

ТРЫКУТНІК — треугольник; прастакутны, раўвастракутны, тупакутны, раўнакутны, разнакутны, касакутны трыкутнік — прямоугольный, остроугольный, тупоугольный, равноугольный, косоугольный — треугольник; раўнабокі

(раўнабочны), разнабокі (разнабочны), раўнабедры трыкутнік — ровносторонний, разносторонний, равнобедренный треугольник.

ТРЫМЕРНЫ — трехмерный.

ТРЫСКЛАД — трехчлен.

ТРЫСЬЦЕННАЯ (або трыкантовая піраміда) — треугольная пирамида.

ТРЫСЬЦЕННЫ РОГ — трегранный угол.

ТУПАКУТНЫ ТРЫКУТНІК — тупоугольный треугольник.

ТУПЫ КУТ — тупой угол.

ТЭАРЭМА ПРОСТАЯ, АДВАРОТНАЯ, СУПРАЦІУНАЯ — теорема прямая, обратная, противоположная; (греч. theorema — обозреваемое, достигнутое размышлением, установленное умственной работой).

ТЭТРАЭДР (чатырасьцен) — тетраэдр (греч. tettares — четыре).

## У

УБЫВАНЬНЕ — убывание.

УВАГА — примечание, замечание.

УАГУЛЬНЯЦЬ, АБАГУЛЬНЯЦЬ — обобщать.

ЎЗАЕМНА — взаимно; ва ўсякім ромбе касоды ўзаемна прастападны і дзеляць куты ромба папалам — во всяком ромбе диагонали перпендикулярны и делят углы ромба пополам.



УЗДОЎЖНЫ — продольный; уздоўжнае сячэньне (або сячэньне у доўжкі) — продольное сечение.

УЗРАСТАНЬНЕ — возрастание.

УКЛАСЬЦІ, СКЛАСЬЦІ ТАБЛІЦУ — составить таблицу.

УКЛЯСЛАЯ КРЫВАЯ ПАВЕРХНЯ — вогнутая кривая поверхность; ўкляслая ламаная — вогнутая ломаная; ўкляслы мн-к — вогнутый мн-к.

УКОСЬНІЦА, ГІПОТЭНУЗА — гипотенуза. [Гіпотэнуза (укосьніца) роўна катэту, разьдзеленаму на сінус супроцьлеглага яму кута або на косінус прылеглага].

УМЕЖАНЫ ТР-К, МН-К, КВАДРАТ, КРУГ — вписанный тр-к, мн-к, квадрат, круг. [Тэар. Умежаны кут мераецца палавінаю дугавіны, на которую ён абаперты (інакш... на катораю ён апіраецца). Вынік. Умежаны кут, абаперты на дыямэтр, ёсьць просты].

УНУТРАНЫ — внутренний.

У НУТРЫ — внутри.

УРЭЗАНАЯ ПІРАМІДА — усеченная пирамида.

УСПАМОЖНЫ, СПАМОЖНЫ КУТ, ЛІНІЯ, АКРУЖНАСЬЦЬ — вспомогательный угол, линия окружность.

УСТУП — вступление, введение.

УТОЎПІЦЬ (патоўпіць, стоўпіць) — вместить, вмещать.

ЎЛАСЬЦІВАСЬЦЬ? (ласьцівасьць, свомасьць!) — свойство.

## Ф

ФІГУРА ГЕАМЭТРЫЧНАЯ — фигура (лат. figura — — внешний вид) геометрическая.

ФОРМА — форма (лат. forma — наружный вид).

ФОРМУЛА — формула (лат. formula — формочка); формула зьвядзеньня — формула приведения. [Трыганамэтрычныя функцыі кутоў большых простага легка зводзяцца к функцыям вострага кута].

ФУНКЦЫЯ — функция (лат. functio — действие); альгэбрычная, трыганамэтрычная, трансцэндэнтная функцыя — алгебраическая, тригонометрическая, трансцендентная функция; яўная, няяўная, разрыўная, неразрыўная, вывадная функцыя — явная, неявная, разрывная, непрерывная, производная функция. [Зьменная (пераменная) велічыня, вартасьці каторай адпавядаюць вартасьцям другой зьменнай велічыні, завецца яе функцыяй. Тая велічыня, у залежнасьці ад каторай зьмяняецца функцыя завецца аргумэнтам функцыі].

ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ ЗАЛЕЖНАСЬЦЬ — функциональная зависимость.



## Х

ХОРДА (цяціва?) — хорда (греч. chorde — кишечная струна); хорда сьцягваючая дугавіну — хорда стягивающая дугу; дугавіна сьцяганая хордай — дуга стягиваемая хордой. [Тэарэмы. 1°. Дыямэтр прастападны к хордзе, дзеліць гэту хорду і абедзьве сьцяганыя ёю дугавіны папалам. 2°. Дугавіны зьмешчаныя паміж раўналеглымі хордамі, роўны].

## Ц

ЦАЛЬ — дюйм.

ЦЕЛА ФІЗЫЧНАЕ, ГЕАМЭТРЫЧНАЕ — тело физическое, геометрическое; цела авароту (кружэньня) — тело вращения.

ЦЫЛІНДР, КРУГЛЯЧ — цилиндр (греч. kylindros — вал, круглое бревно), (гл. сл. кругляч).

ЦЫРКУЛЬ — цыркуль (лат. cirkum — кругом, вокруг).

ЦЭНТР (асяродак) — центр (греч. kentron — средина).

## Ч

ЧАРГОВЫ — очередной, следующий.

ЧАРОДНЫ — очередной, последующий; чародны склад тасунка — последующий член отношения.

ЧАСТКА (дроб, дробязь?) — дробь; дзесятковая частка — десятичная дробь; простая, правільная, няправільная частка — простая правильная, неправильная дробь; зьвядзеньне частак да аднаго, да агульнага назоўніка — приведение дробей к одному, к общему знаменателю; дзеяньні над частковымі лічбамі — действия над дробными числами.

ЧАСТКОВЫ — дробный; частковае выражэньне — дробное выражение.

ЧАТЫРАСЬЦЕН (тэтраэдр) — тетраэдр.

ЧАТЫРЫ АСАБЛІВЫХ ПУНКТЫ — четыре замечательные точки.

**Ш**

ШУКАНЫ — искомый.

ШЫРЫНЯ — ширина.

**Э**

ЭЛЕМЭНТ — элемент (лат. elementum — первообразное вещество, первоначало).

ЭЛІПС — элипс (греч. elleipsis — недостаток, запаздание).

ЭЛІПСОІД — эллипсоид; эліпсоід абароту (кружэньня) — эллипсоид вращения.

ЭЛІПТЫЧНЫ — элиптический.

---

# Аснаўныя тэрміны з геамэтрыі і трыганамэтрыі.

## (Націск абазначаны іншым шрыфтам).

---

### Плосмая геамэтрыя (планімэтрыя).

**Пункт** перасечы, дотыку.

**Лінія** простая, напоўпростая (прамень), крывая, выпуклая, укляслая, ламаная, паземая, стоцьная (стацьцявая), прастападная, перасечаная, перасякаючая. Адрэз.

Лініі раўналеглыя.

**Паверхня. Пласмо. Плошча.** Паверхня плосмая, крывая, выпуклая, ўкляслая. Паверхня авароту.

**Геамэтрычная фігура.** Кут, трыкутнік, мнагакутнік, акружнасьць, круг.

**Кут** просты, востры, косы.

Куты сумежныя, прылеглыя, супроцьлеглыя, роўныя, няроўныя, пры аснове, пры вершадзі.

Куты наўскрыжныя (унутраныя, зьнешнія), стоцьныя (супроцьбочныя), адпаведныя, аднастаронныя (унутраныя, зьнешнія).

Элемэнты кута. Вершадзь, бок, раўна дзелячая (бісэктрыса).

**Трыкутнік** прастакутны, касакутны.

Трыкутнік раўнабочны (раўнабокі), разнабочны (разнабокі), раўнабедры.

Элемэнты трыкутніка. Вершадзь, бок, кут, мэдыяна, вышыня, аснова, рамо (катэт), укосьніца (гіпотэнуза), паяс (сярэдняя лінія). Пэрымэтр (абмер?).

**Чатыракутнік** Раўналеглабочнік (паралелаграм), ромб, прастакутнік, трапэцыя, квадрат.

Элемэнты чатыракутніка. Бок, касада (дыяганаль), паяс (сярэдняя лінія), асновы трапэцыі. Пэрымэтр.

**Пяцікутнік**, шасьцікутнік і г. д.

**Акружнасьць. Круг. Эліпс.**

Элемэнты іх. Асяродак (цэнтр), лучак (радыюс), дугавіна, хорда (цяціва), дыямэтр. Лінія датычная, пункт дотыку; вырэз (сэктар), зрэз (сэгмэнт) круга.

## Геамэтрыя у прасторы (стэрэамэтрыя).

**Пласмо. Цела. Абыймо.**

**Мнагасьцен.**

Элемэнты яго: сьцяна, кант, вугол (двусьценны кут), рог (мнагасьценны кут).

**Чатырасьцен** (тэтраэдр).

**Раўналегласьцен** (паралелепіпед), шасьцісьцен, куб.



**Прызма** правільная, няправільная, простая, пахілая, прызма урэзаная.

**Піраміда.** Урэзаная піраміда.

**Целы аварoту.**

Элемэнты іх. Асяродак. Кіруючая, творачая лініі. Сечыва. Сячэньне.

**Кругляч** (цыліндр).

**Кучмень** (конус).

**Клуб.** Клубавы вырэз (сэктар), зрэз (сэгмэнт).

**Эліпсоід.**

## Трыганамэтрычныя тэрміны.

Функцыя. Аргумэнт.

Сталая, зьменная велычіня.

Градус, мінута, сэкунда.

Радыян. Лучак (радыюс) — вэктар.

Сінус, косінус; тангенс, котангенс; сэканс, косэканс.

Дапаўніцельны кут.

Формула. Формула зьвядзеньня.

Формулы лёгарытмічнага і нелёгарытмічнага віду.

Кут ад'емны, дадатны.

Трыганамэтрычнае раўнаваньне.

Табліцы лёгарытмаў.

# ЗЬМЕСТ



